ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№4 (2510)

23 студзеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

*СКЛАДАНАСЦІ І ПРАБЛЕМЫ МЯЖЫ*

## НЕЛЕГАЛЬНЫЯ МІГРАНТЫ

Межы ёсць ва ўсіх краін, але нам дасталася ледзь ці не самая клопатная. Магчыма, калі-небудзь мы паглядзім на гэта па-іншаму і навучымся здабываць з яе нават прыбытак па прыкладу Польшчы, дзе мяжа дае да 28 працэнтаў бюджэту, ці Англіі, дзе гэтая лічба даходзіць да 40 працэнтаў. Пакуль жа становішча буфера паміж Усходам і Захадам прыносіць толькі складанасці і праблемы. І адна з іх — праблема нелегальных мігрантаў.

**ПЕРШАЯ сур'ёзная аперацыя па затрыманню нелегалаў у Беларусі была праведзена ў снежні 1992 года, калі затрымалі каля сарака індусаў і пакістанцаў. Далей — болей. За апошнія гады ў Беларусі затрыманы парушальнікі мяжы з усіх кантынентаў, акрамя хіба што Антарктыды. Сустракаліся госці нават з далёкай Буркіна-Фасо. Усяго ж спробу незаконна перасячы мяжу Беларусі зрабілі грамадзяне з 72 краін свету.**

Час ад часу мяняюцца асноўныя пункты прызначэння: найбольш папулярнай становяцца то Германія, то Францыя. Цяпер усё больш нелегалаў імкнецца ў Швецыю і іншыя Скандынаўскія краіны.

Нелегальныя мігранты, як правіла, прыбываюць у краіны СНД зусім законна: у якасці студэнтаў ці, напрыклад, турыстаў. Аднак пасля прыбыцця ў Маскву група раптам "знікае" і пачынае рухацца ў бок заходняй мяжы.

— Праблема нелегальнай міграцыі глабальная і так востра закранула Беларусь у сілу таго, што мы апынуліся на асноўных шляхах транзіту з Усходу на Захад, — гаворыць намеснік камандуючага пагранічнымі войскамі Рэспублікі Беларусь Мікалай Кохан, — таму кантраляваць нелегальную міграцыю тут складана. Аднак сёння мы ведаем яе асноўныя тэндэнцыі. Так, ужо відавочна, што нелегальная міграцыя мае вельмі вялікія матэрыяльныя і фінансавыя сродкі. Нядаўна мы сачылі за групай каля ста чалавек, на перамяшчэнне якой з Шры-Ланкі да Швецыі было выдзелена 120 тысяч долараў. Прычым гэтыя сродкі ідуць афіцыйна, праз банкі. У час першых затрыманняў грошы і групы ішлі разам, цяпер гэта два зусім раздзельныя каналы. Сёння існуюць устойлівыя, добра арганізаваныя злачынныя структуры, якія займаюцца нелегальнай перапраўкай замежных грамадзян на Захад праз тэрыторыю Беларусі. Ёсць усе падставы меркаваць, што кіруюць імі добра падрыхтаваныя прафесіяналы.

Значна аблягчыла існаванне мігрантаў адкрыццё мяжы з Расіяй. Калі законапаслухмяны грамадзянін падарожнічае праз яе ў лепшым выпадку раз у год, то нелегалы, якія часта вязуць наркотыкі, а то і зброю, перасякаюць яе пастаянна. І асноўная маса нелегальных мігрантаў пачынае "рух" з Расіі, якая ў пэўным сэнсе нават зацікаўлена ў іх: афіцыйна набываюцца візы, аплачваюцца пражыванне ў гасцініцах, карыстанне транспартам. У Беларусі ім таксама даводзіцца плаціць, але паколькі іх знаходжанне тут нелегальнае, гэтыя грошы ідуць ужо ў ценявую сферу. Менавіта таму, па ацэнках спецыялістаў, у любы момант у нашай краіне можа аказацца такая колькасць долараў, што іх курс будзе вызначаць ужо не Нацбанк.

За 1996 год у Беларусі было выяўлена каля 40 злачынных сетак па нелегальнай перакідцы мігрантаў. Але гэта толькі шчупальцы, што ідуць з краін, адкуль ажыццяўляецца асноўны экспарт жывога тавару на Захад. Трэба думаць, нядаўчы агульнай карціны не змянілі, таму што гэты бізнес лічыцца самым даходным пасля гандлю наркотыкамі і зброяй. Ды і чаго, уласна, баяцца, калі ў нашым заканадаўстве да гэтага часу адстутнічае артыкул, па якому можна прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за арганізацыю пераправы праз мяжу нелегальных мігрантаў.

**ПЕРАКІДКА нелегалаў праз мяжу ажыццяўляецца самымі рознымі спосабамі. Іншы раз цэлыя групы ідуць па падробленых пашпартах, выробленых на прафесійным узроўні, і вывязць іх у агульным патоку пасажыраў нялёгка. Дарэчы, пасля распаду СССР ва ўсіх былых рэспубліках захавалася мноства бланкаў замежных пашпартоў і здаралася, што АВІРы выдавалі прыватным фірмам ліцэнзіі на выдачу гэтых дакументаў.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЛЁС АНДРЭЯ СНІТКІ-МАЛОДШАГА



## ЛІЧЫЎ СЯБЕ БЕЛАРУСАМ

Вядомы археолаг і краязнаўца, гісторык Андрэй Снітка меў двух сыноў і дачку. Пра самога Снітку не гэтак даўно было расказана ў адным з нумароў нашай газеты за мінулы год. Кожны з Сніткаў варты асобнага аповяду. У кожнага з іх свой лёс, свая доля. Сёння наш расказ пра малодшага Сніткавага сына, якога, як і бацьку, звалі Андрэй (1895—1969). Раскажам пра яго так, як склалася ягонае жыццё, хоць пра такое жыццё ён і не марыў, не планаваў, не прадбачыў, не праектаваў.

З малых гадоў быў вясёлы і гарэзны. У сям'і яго звалі Адзя. Скончыў Мінскае рэальнае вучылішча, якраз тое, дырэктарам якога быў Іван Самойла, сын якога Уладзімір, Уладак з Казіміраўкі, вядомы публіцыст і літаратар, адзін з першых заўважыў паэтычны талент Янкі Купалы. Рэалісты вельмі любілі Самойлу. Андрэй Снітка-малодшы не быў выключэннем. Але за нешта Самойлу з ягонай пасады знялі, вывелі са службовай кватэры. Рэалістам гэта дужа не спадабалася. Яны неўзлюбілі новага дырэктара. Пачаліся канфлікты, спрэчкі. Андрэй Снітка разам з сябрамі таксама неяк выказаў сваю непрыязнасць да новага дырэктара. І ўсіх іх за гэта, цэлую групу выпускнога класа, пакінулі на другі год. Пасля рэальнага вучылішча Андрэй паступіў у Пецярбургскі інстытут шляхоў зносін. А тут вайна. Патрапіў у віленскую школу афіцэраў. Закончыў у Палтаве. Затым перабраўся ў Кіеў. З Кіева — у Екацярынаслаў. Усё тады там складалі праекты будучага Днепрагэса, вялася гідралагічныя вышукі. Думаў заняцца будоўляй, ды неяк перабіць. Але лёс пакіраваў інакш. З арміяй белых патрапіў у Крым. Там іх перабілі, пераглумілі, расцерушылі. Але Андрэй ацалеў. Сеў на нейкі карабель, а адтуль — у Галіпалі. Гэтае Галіпалі дзесь у Турцыі паблізу Канстанцінопаля. Прабыў Андрэй Снітка там нядоўга. Гэта была вельмі цяжкая часіна ў ягоным жыцці. Даймаў голад, неўладкаванасць. І ён быў такі не адзін. Каб неяк выжыць, не змерці з голаду, хадзілі на паніхіды, на памінкі ў святыні. А там усім давалі памінальную кашу. То яны гэтым і жывіліся. Меў ён залатую каронку, дык і тую мусіў здзерці і на пражытак пусціць. У 1920 годзе ў Галіпалі склалася невялікае беларускае зямляцтва. Андрэя абралі беларускім консулам. Ён з гэтага трохі смяяўся, жартаваў. "Пара беларусаў, казаў ён, а і ўжо консул..." Неўзабаве да Галіпалі дайшла вестка, што Чэхаславакія гатовая падтрымаць здольных да навукі маладых выгнаннікаў, і Андрэй Снітка ў кастрычніку 1921 года трапляе ў Прагу, давучваецца там. Вучобу скончыў паспяхова, быў другім, атрымаў дыплом інжынера. На ягоных дзвярах увесь час красавалася таблічка на чэшскай мове: "Інжынер Андрэй Снітка".

**НА ЗДЫМКУ: інжынер Андрэй СНІТКА з рэдактарам "Нашай нівы" Аляксандрам УЛАСАВЫМ.**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Студзеньскія ўзоры.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

САВЕТ РЭСПУБЛІКІ





13 студзеня пачала работу першая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

З прывітальнай прамовай да сенатараў звярнуўся Прэзідэнт А. Лукашэнка. Старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь абраны Павел Шыпук, былы старшыня Гомельскага аблвыканкома.

НА ЗДЫМКУ: у час работы першай сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

СУПОЛЬНАСЦЬ

## ЕЛЬЦЫН НАКІРАВАЎ ЛУКАШЭНКУ ПРАПАНОВЫ ПА ПАСКАРЭННЮ ІНТЭГРАЦЫІ РАСІІ І БЕЛАРУСІ

"Прэзідэнт РФ Барыс Ельцын лічыць, што Супольнасць Расіі і Беларусі адбылася", — заявіў прэс-сакратар Сяргей Ястржэмбскі на брыфінгу.

Ён паведаміў журналістам, што Б. Ельцын накіраваў Прэзідэнту Беларусі, старшыні Вышэйшага савета Супольнасці Расіі і Беларусі Аляксандру Лукашэнку адпаведнае пасланне, якое ўтрымлівае прапановы па паскарэнню і паглыбленню інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма краінамі.

У прыватнасці, адзначыў прэс-сакратар, Б. Ельцын прапаноўвае пачаць рэалізацыю праграмы сінхранізацыі эканамічных рэформаў у дзвюх краінах. У сувязі з гэтым прапаноўваецца ў кароткія тэрміны закончыць уніфікацыю мытных кодэксаў абедзвюх краін.

Страты Расіі і Беларусі з-за адсутнасці такой уніфікацыі складаюць, паводле слоў прэс-сакратара, 5—6 трыльёнаў рублёў.

У ліку ініцыятыў расійскага Прэзідэнта — фарміраванне адзіных паліўна-энергетычных балансаў РФ і Беларусі. Б. Ельцын прапаноўвае да канца 1997 года стварыць адзіную нарматыўна-прававую базу і адзінае падатковае заканадаўства. Ён выступае таксама за уніфікацыю бюджэтнай сістэмы, стварэнне адзінага бюджэту і адзінай валютнай сістэмы Супольнасці.

У пасланні не выключаецца магчымасць стварэння пасля правядзення адпаведнага рэферэндуму адзінага ўрада Супольнасці, сказаў С. Ястржэмбскі.

Па яго словах, пасланне Б. Ельцына прадугледжвае правядзенне на пачатку гэтага года пасяджэння Вышэйшага савета Супольнасці.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВІТАЕ ІНІЦЫЯТЫВЫ БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА

13 студзеня, даведаўшыся пра чарговыя ініцыятывы Барыса Ельцына аб паглыбленні інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю і, у прыватнасці, аб магчымасці стварэння агульнага ўрада Супольнасці, на імправізаваным брыфінгу ў будынку адміністрацыі падчас першай сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка зазначыў журналістам, што ён вельмі задаволены гэтым фактам.

"Я вельмі шчаслівы і вельмі рады, што Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі такім чынам рэагуе на аб'яднаўчыя працэсы нашых дзяржаў. Гэта наша дзецішча, прэзідэнтаў Беларусі і Расіі. Я думаю, што нам трэба падштурхоўваць гэты працэс і рэалізоўваць". Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што размова павінна ісці не толькі пра эканамічную інтэграцыю, але і пра палітычную і ваенную. А. Лукашэнка падкрэсліў, што ў яго ёсць таксама канкрэтныя прапановы аб паглыбленні інтэграцыі ад Дзяржаўнай думы Расіі, ад Савета Федэрацыі, урада і Прэзідэнта Расіі і што абодва бакі сумесна працуюць над гэтымі прапановамі.

На думку беларускага Прэзідэнта, аб далейшых шляхах палітычнай інтэграцыі павінны выказацца перш за ўсё парламенты абедзвюх краін. Гэта ўваходзіць у іх кампетэнцыю. Прычым ён даў зразумець, што для вырашэння далейшага лёсу Супольнасці неабавязкова праводзіць рэферэндумы ў абедзвюх краінах, можна знайсці больш простае рашэнне, перш за ўсё праз парламенты.

ВАКОЛ ПАСЛАННЯ Б. ЕЛЬЦЫНА

## АПАЗІЦЫЯ ЗАКЛАПОЧАНА

Пасланне Барыса Ельцына выклікала вострую заклапочанасць у беларускай апазіцыі. Як паведамляе газета "Звязда", ужо 14 студзеня прадстаўнікі БНФ і іншых арганізацый правялі шматлюдны пікет ля расійскага пасольства, пратэстуючы супраць "імперскіх замахаў Масквы". Сярод лозунгаў можна было заўважыць такія: "Беларусь — край партызанскі", "Хацелі як лепей, а атрымаецца як заўсёды" і інш. Адзін з арганізатараў гэтага пікета, актывіст БНФ Валерый Буйвал, зазначыў, што яго арганізацыя расцэньвае гэтыя падзеі як спробу Масквы атрымаць Беларусь у якасці кампенсацыі за страчаную Чачню і пашырэнне НАТО на Усход. Сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык паведаміў, што вулічныя акцыі па абароне незалежнасці Беларусі будуць працягвацца, у тым ліку пікеты ля расійскага пасольства, а на 25 студзеня пададзена заяўка на правядзенне ў Мінску шэсця і мітынгаў у падтрымку незалежнасці Беларусі і ў знак салідарнасці з народамі Сербіі і Балгарыі.

— Ельцын цяпер знаходзіцца ў такім фізічным стане, што ён можа толькі падпісаць падрыхтаваны яго асяроддзем дакумент. Тут завязана і ўнутрырасійская раскладка, і барацьба паміж Дзярждумай і Прэзідэнтам, і інш. Тут завязана і такая расійская праблема, як пашырэнне НАТО на Усход... Для нас жа ў гэтай сітуацыі самае істотнае тое, што з'явілася зноў непрыкрытая пагроза нашай незалежнасці. Мы гэтым абураны, мы зробім усё, каб захаваць незалежнасць нашай краіны. Уся палітыка БНФ гэтай вясной будзе накіравана менавіта на дасягненне гэтай мэты, — заявіў Вячаслаў Сіўчык.

ПРЫЗНАЧЭННІ

## НОВЫ МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ — ІВАН АНТАНОВІЧ



Як паведамілі з прэс-службы Прэзідэнта, у адпаведнасці з артыкулам 146 Канстытуцыі Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі міністрам замежных спраў назначаны Іван Іванавіч Антановіч.

І. Антановіч нарадзіўся ў 1937 годзе ў Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці. Па нацыянальнасці — беларус.

Адукацыя — вышэйшая, закончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Доктар філасофскіх навук, прафесар.

Пасля заканчэння інстытута — на навуковай рабоце ў Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук БССР.

У 1967—1969 гадах — загадчык рэдакцыі філасофіі і права Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

У 1969—1974 гадах — супрацоўнік, галоўны рэдактар часопіса ААН "Международное обозрение криминальной политики".

Быў пастаянным прадстаўніком БССР пры ЮНЕСКА ў Парыжы.

З 1974 года — на партыйнай рабоце.

У 1987—1991 гадах — прарэктар па навуковай рабоце Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС.

Працаваў у Расійска-амерыканскім універсітэце ў Маскве, у Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, узначальваў Беларускі інстытут інфармацыі і прагнозу.

З 1995 года — намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны" і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

## БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА ЗА МЯЖОЙ НЕ ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ УВАГІ ЎРАДА

Як паведаміла прэс-служба ўрада Рэспублікі Беларусь, 8—11 студзеня намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч сустрэўся з кіраўнікамі Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма"), Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і шэрагу іншых грамадскіх аб'яднанняў рэспублікі, што вядуць работу з беларускай дыяспарай.

У час сустрэч былі абмеркаваны пытанні паляпшэння работы з беларусамі блізкага і далёкага замежжа, удасканалення яе каардынацыі, паляпшэння інфармаванасці нашых суайчыннікаў за рубяжом аб пытаннях, якія рашаюцца ў Беларусі, дасягненнях рэспублікі і яе праблемах, узмацнення дзяржаўнай падтрымкі беларускай дыяспары ў галіне культуры і адукацыі, абароны грамадзянскіх правоў і свабод яе прадстаўнікоў.

Асобая ўвага была нададзена развіццю больш цеснага супрацоўніцтва грамадскіх аб'яднанняў і дзяржавы ў справе падтрымкі запатрабаванняў беларускай дыяспары, у прыватнасці, у выкананні і далейшым развіцці комплекснай дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце".

*"Тут я ў першую чаргу хачу назваць нашы адносіны з брацкай расійскай дзяржавай.*

*Інтэграцыя Беларусі і Расіі — гэта не нейкі модны лозунг, не палітычная кан'юнктура, а наказ часу. Супольніцтва Беларусі і Расіі павінна стаць адным з лакаматываў нашага эканамічнага адраджэння.*

*Менавіта вы — Савет рэспублікі — сумесна з Палатай прадстаўнікоў здольныя надаць новы імпульс беларуска-расійскай інтэграцыі, стварыць трывалую прававую аснову для дасягнення мэтаў, замацаваных у беларуска-расійскім дагаворы ад 2 красавіка 1996 года.*

*Гаворачы аб інтэграцыі, хачу звярнуць вашу ўвагу на адну важную акалічнасць, якую часта выпускаюць з-пад увагі нават прыхільнікі інтэграцыйных працэсаў.*

*Справа ў тым, што інтэграцыю недастаткова разглядаць толькі як узаемавыгаднае эканамічнае супрацоўніцтва паміж былымі саюзнымі рэспублікамі.*

*Узаемавыгадных, партнёрскіх адносінаў Беларусь будзе дабівацца з усімі дзяржавамі свету — як на Усходзе, так і на Захадзе, як на Поўначы, так і на Поўдні.*

*Наша інтэграцыя прадугледжвае аднаўленне разарваных эканамічных сувязей некалі адзінага народнагаспадарчага комплексу былога Савецкага Саюза. Інтэграцыя — гэта і аднаўленне геапалітычнай, гістарычнай, культурнай і духоўна-маральнай прастораў некалі адзінай вялікай дзяржавы".*

*(З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ЛУКАШЭНКІ А. Р. на адкрыцці першай сесіі Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу 13 студзеня 1997 года).*

ПАЗІЦЫЯ БНФ

## ВЫКАЗАЎСЯ СУПРАЦЬ «ЦЕНЯВОГА ЎРАДА»

Кіраўніцтва Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" выказалася ў сувязі са стварэннем "ценявога ўрада" апазіцыі.

У прыватнасці, у заяве гаворыцца, што супрацоўніцтва розных палітычных сіл магчыма толькі ў рамках Нацыянальнай эканамічнай рады пры Вярхоўным Савеце 13-га склікання, аб падтрымцы якога "ў той меры, у якой ён застаецца сведчаннем дзейснасці Канстытуцыі 1994 года", заявіў Народны фронт.

Кіраўніцтва фронту лічыць, што любыя спробы штучна стварыць на яго аснове палітычны рух мяняюць статус парламента ў бок зніжэння і не будуць падтрыманы БНФ.

# НЕЛЕГАЛЬНЫЯ МІГРАНТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Няма мяжы чалавечай вынаходлівасці, калі размова ідзе аб кантрабандным правозе людзей. У парушэнне ўсіх фізічных законаў з багажніка "Форда" нeяк дасталі ...6 чалавек. Але і гэта, як аказалася, не мяжа. Аднойчы пагранічнікаў зацікавіў аўтамабіль гвінейскага дыпламата, які пакідаў Беларусь і, згодна з дакументамі, "працаваў" у Францыі. Паводзіў сябе гэты "дзеяч" крайне падазрона. Па просьбе пагранічнікаў Міністэрства замежных спраў апаратыўна праверыла яго паўнамоцтвы, і праз пару гадзін высветлілася, што да дыпкорпуса маюць адносіны толькі нумары яго падробленага пашпарта. Да гэтага часу ў машыне ўжо запацелі вокны, што наводзіла на яшчэ большыя падазрэнні. Увогуле, аказалася, што калі пастарацца, то ў багажнік "Нісана" можна ўтрамбаваць... 15 кітайцаў...

Аднойчы партыю кітайцаў — 50 чалавек — паспрабавалі правезці праз мяжу ў чамаданах. Адразу насцярожыла, што груз (чамаданы) з Мінска ішоў на ЗША, быццам у Амерыцы сваіх чамаданаў не хапае. Увогуле, чамаданаў у фуры аказалася не 200, як было ўказана ў дакументах, а ўсяго 70, астатняе месца было запоўнена нелегаламі.

Санкцыі, якія прымяняюцца да парушальнікаў дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, уражваюць сваёй гуманнасцю і мяккасцю: сёння за парушэнне іншаземцамі правілаў пражывання і перамяшчэння па тэрыторыі Беларусі наш Адміністрацыйны і Крымінальны кодэксы прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры трох мінімальных зарплат. Трэба думаць, што знойдзецца нямала арганізатараў, ды і саміх нелегалаў, якія згодзяцца плаціць такія грошы штодзённа.

Пасля затрымання парушальнік перадаецца органам МУС, якія павінны прыняць меры для высялення яго з тэрыторыі краіны. Аднак адсутнасць сродкаў робіць дэпартацыю нелегалаў практычна немагчымай. У 1994—1995 гадах з тэрыторыі Беларусі было дэпартавана ўсяго 8 чалавек. Пасольствы тых краін, адкуль прыбылі нелегалы, ніякага інтарэсу да сваіх грамадзян ужо не праяўляюць. Сёння становіца ўражанне, што некаму вельмі выгадна праводзіць у Беларусі акцыі асіміляцыі грамадзян гэтай краіны. Так што, магчыма, і з'явяцца ў хуткім часе дзенебудзь у сталічнай Малінаўцы кітайскія кварталы. Тым больш, што ў гэтым годзе зафіксаваны рэзкі прыток кітайцаў у Беларусь.

Спробы нелегальнага перасячэння дзяржаўнай мяжы — гэта сур'ёзная праблема. Але не меншую небяспеку тоіць той шлейф, які цягнецца за нелегальнымі мігрантамі, — злачыннасць, ценявыя грошы, наркотыкі, валюта, зброя...

**Авайна ўжо ідзе. І вядуць яе прафесіяналы: на тэрыторыі Беларусі ўжо затрымліваліся былыя генералы службы бяспекі Афганістана, якія займаліся арганізацыяй перакідкі нелегалаў і іншымі злачынствамі. Абучаныя яшчэ ў часы Савецкага Саюза ў спецыяльных вучэбных установах, суперпрафесіяналы цудоўна падрыхтаваны і, што важна, маюць патрэбныя сувязі.**

Увогуле ж на нашай тэрыторыі вельмі многа афганцаў, і іх злачынныя структуры развіты і арганізаваны лепш за ўсё. Не варта забываць і пра тое, што ў Беларусь у асноўным сцякаюцца мігранты з "гарачых кропак", якія, як правіла, добра ведаюць зброю і маюць вопыт баявых дзеянняў. Ужо затрымліваліся групы нелегалаў, якія наладжвалі разборкі паміж групоўкамі, а таксама спрабавалі дзяліць сферы ўплыву ў Мінску. Неаднаразова фіксаваліся выпадкі рэкету, захопу заложнікаў, у якіх ахвярамі і выканаўцамі былі грамадзяне, што незаконна знаходзіліся на тэрыторыі рэспублікі. У 1995 годзе за розныя адміністрацыйныя парушэнні было прыцягнута да адказнасці 33 573 замежных грамадзян. Пры гэтым імі ўчынілі 755 крымінальных злачынстваў, у тым ліку 12 наўмысных забойстваў. У першым паўгоддзі 1996 года колькасць злачынстваў, якія ўчынілі іншаземцы, павялічылася на 30 працэнтаў.

**Пастаянна займаючыся праблемай нелегалаў, пагранічнікі не маглі ў рэшце рэшт не задаць пытанне: адкуль гэтыя бадзягі, галодныя, абарваныя людзі, бяруць грошы! Вакол жа іх пракручваюцца вялікія сумы. Калі праблему пачалі вывучаць глыбей, узнікла версія аб тым, што грошы, неабходныя для пакрыцця расходаў на нелегальную міграцыю, бяруцца ад продажу наркотыкаў.**

Аб'яднаныя намаганні пагранвойск, Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі дазволілі атрымаць поўнае пацвярджэнне гэтай версіі: партыя наркотыкаў практычна заўсёды суправаджае групу нелегальных мігрантаў. Асноўны пункт прызначэння — Расія, аднак частка "тавару" рэалізуецца ў Беларусі. Прычым частка немалая. Так, з пяцідзесяцікілаграмовай партыі гераіну, што нядаўна адпраўлялася ва ўсходнім напрамку, на тэрыторыі нашай краіны меркавалася рэалізаваць амаль два кілаграмы. І калі ў 1990 годзе ў трох выпадках было канфіскавана 960 грамаў марыхуаны і опію, то ў 1995 годзе быў зафіксаваны ўжо 51 выпадак канфіскацыі 386 кілаграмаў разнастайных наркотыкаў. У цэлым жа незаконны абарот дасягнуў каля 1 500 кілаграмаў.

Нелегалы-кантрабандысты адчуваюць сябе ў нас так спакойна, што адзін з іх неяк прынёс наркотыкі на продаж у звычайным цэлафанавым пакеце. У выніку ў мінулым годзе ў Беларусі рост злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, склаў 40 працэнтаў.

Яшчэ адна праблема, звязаная і з наркотыкамі, і з нелегаламі, — гэта СНІД. Пасля шырокамаштабнай праверкі ў Беларусі гэты дыягназ лабараторна ўстаноўлены ў 233 чалавек, з іх 88 — жыхары сумна вядомага Светлагорска. У гэтым жа горадзе выяўлена 394 чалавекі з першаснымі станоўчымі вынікамі, якія могуць пацвердзіцца пасля дадатковай праверкі. Амаль усе заражаныя — маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 30 гадоў. Галоўны ўрач рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу Валерый Глазоўскі заўважыў у сваім інтэрв'ю, што меры трэба прымаць не супраць СНІДу, а супраць поўнай неабароненасці беларускіх межаў, праз якія вязуцца наркотыкі, што часта асядаюць у краіне. Аднак справа, відаць, усё-такі не толькі ў наркотыках: у Беларусі на мяжы сертыфікаты на ВІЧ не правяраюцца.

**Усвабоднага чалавека азнаямленне з міграцыйнай сітуацыяй у рэспубліцы Беларусь выклікае толькі адно пытанне: а можа, і не трэба нікога затрымліваць на мяжы! Пішы б гэтыя нелегалы, куды хочуць, і чым далей адсюль — тым лепш.**

У адказ на маё пажаданне намеснік камандуючага пагранічнымі войскамі Рэспублікі Беларусь Мікалай Кохан сказаў, што, удзельнічаючы ў мерапрыемствах, праводзімых Міжнароднай арганізацыяй па міграцыі і Упраўленнем Вярхоўнага камісара па справах бежанцаў ААН, ён імкнецца растлумачыць прадстаўнікам заходніх краін, што ў нашай граніцы ёсць пэўны запас трываласці. У Беларусі ўжо накапленне нелегалаў, сёння тут знаходзіцца каля 170 тысяч чалавек, якія робяць настойлівыя намаганні, каб трапіць у Заходнюю Еўропу. Беларускія пагранічнікі, якіх усяго 10 тысяч, гэты паток стрымліваюць з апошніх сіл.

Наш сённяшні бюджэт непараўнальны з тымі сродкамі, якія выкарыстоўваюцца для нелегальнага перасячэння мяжы, калі на аднаго чалавека выдзяляецца ад пяці тысяч долараў і вышэй. Памножце гэтую лічбу на колькасць нелегалаў і параўнайце з нашым бюджэтам, які складаў у мінулым годзе 271 мільярд рублёў. Да таго ж, калі мы ўсё-такі затрымліваем нелегала, абыходзіцца ён нам трыста долараў у суткі. Пры гэтым адзначаецца выразная тэндэнцыя да нарастання патоку мігрантаў. У эфектыўнасці нашай дзейнасці ў большай ступені павінны быць зацікаўлены дзяржавы, куды накіравана нелегальная міграцыя, — Германія, Францыя, Італія, Швецыя і іншыя краіны, дзе нелегалы праяўляюць актыўнасць аж да масавых беспарадкаў і тэрарыстычных актаў.

Між іншым, Польшча і Прыбалтыйскія дзяржавы рэгулярна атрымліваюць фінансавую дапамогу, накіраваную на абарону межаў. Мабыць, Захад упэўнены, што ад тысяч нелегалаў іх абараняюць палякі, а не беларусы? Між тым праблема нарастае, а сотні тысяч нелегальных мігрантаў могуць стаць той гаручай сумессю, якая здольна ўзарваць бяспеку ўсяго еўрапейскага рэгіёна.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

## ШКОЛА РОСПІСУ





**У Гомельскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы народных промыслаў пачалі рыхтаваць навучэнцаў па новай спецыяльнасці — мастакоў роспісу па дрэву. Тут узнаўляюць даўно забытыя арнаменты і ўзоры па роспісах на апрацоўчых дошках, кубках, цукарніцах, хлебніцах. А нехта з дзяцей, магчыма, будзе пісаць і іконы — некалі ж славілася веткаўская школа стараверскага іканапісу.**

**НА ЗДЫМКАХ: на занятках па роспісу; будучы майстар роспісу па дрэву Лена КІРЫЕНКА.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## АЛЕРГІЯ НА АБРЭВІЯТУРУ

# ТРЫ ЛІТАРЫ, ЯКІЯ ПАГРАЖАЮЦЬ УЗРУШЫЦЬ БЕЛАРУСЬ

Пасля чарнобыльскай трагедыі 1986 года ў Беларусі пачалася алергія на абрэвіятуру АЭС, радыяцыйай сталі палохаць дзяцей, а вучоных, якія сур'ёзна займаюцца атамнай энергіяй, увайшло ў моду прыраўноўваць ледзь ці не да "ворагаў народа". Між тым, эмоцыі эмоцыямі, але ў перыяд энергетычнага крызісу ў рэспубліцы сталі сур'ёзна задумвацца, як сілкаваць прадпрыемствы і чым ацяпляць жыллё грамадзян. Асабліва актуальнае значэнне гэтая праблема набыла ў 1996 годзе, калі высветлілася, што стварэнне Супольніцтва Расіі і Беларусі зусім не азначае бясплатнай і няспыннай пастаўкі расійскіх нафты і газу.

У канцы мінулага года "АіФ у Беларусі" атрымалі сенсацыйнае паведамленне: **ужо ў гэтым тысячагоддзі Беларусь пачне будаўніцтва ўласнай атамнай электрастанцыі.** Нават для заходніх спецслужбаў не сакрэт, што некалькі гадоў пад Мінскам, у Рудзенску, знаходзіцца законсерваваны аб'ект пад наіўнай назвай ЦЭЦ-5. Па нашых звестках, гэта не што іншае, як каркас, на аснове якога можна ўзвесці як цеплавую, так і атамную электрастанцыю (для чаго, уласна, ён і ствараўся). Аднак айчынная АЭС будзе ўсё ж не ў Рудзенску. Ці то ініцыятараў стрымала блізкасць да сталіцы, ці то па іншых меркаваннях, але з 40 абследаваных раёнаў афіцыйна выбраны тры, у адным з якіх у любы момант можа пачацца будаўніцтва атамнай станцыі. Гэта **Дубровенскі раён Віцебскай вобласці, Шклоўскі і Быхаўскі раёны Магілёўскай вобласці.** Усе тры выбраныя месцы адпавядаюць нарматывам МАГАТЭ (Міжнароднай арганізацыі па кантролю за атамнай энергіяй). І хаця дакладнае месца будаўніцтва АЭС трымаецца ў тайне, можна меркаваць, што гэта будзе Дуброўна. Малаверагодна, што прэзідэнт А. Лукашэнка па чыста ідэалагічных меркаваннях рызыкне навязаць атам, няхай нават і мірны, сваім землякам-шклаўчанам, а Быхаў ужо і так нацярпеўся ад радыяцыі Чарнобыля. Дуброўна ж — лясістае і дастаткова аддаленае ад буйных гарадоў месца, што ўсё ж з'яўляецца такім-сякім плюсам...

Нягледзячы на запэўніванні арганізатараў у экалагічнай бяспецы праекта, лёгка спрагназаваць вялікі грамадскі рэзананс, прычым не толькі ў вышэйназваных раёнах. Што будзе, калі жыхары Дуброўна ці Быхава пачнуць выстаўляць пікеты, а "Грынпіс" прыйшле да нас цэлую дэлегацыю на верталётах? Улады яўна не гатовы да такога развіцця падзей, хаця меркаваннем насельніцтва пацікавіцца варта было б у першую чаргу.

Зусім не перакрэсліваючы ўсяго сказанага вышэй, даводзіцца канстатаваць, што без дадатковых крыніц энергіі нашай рэспубліцы сапраўды не абысціся. Будзе гэта АЭС, ветраныя млыны ці цеплавыя ўстаноўкі, што працуюць на самагоне, — рашаць уладам. Але жыць з усім гэтым давядзецца ўсё-такі нам — простым грамадзянам.

Станіслаў БАЛЬШАКОЎ.

**А нядаўна стала вядома, што ў рэспубліцы на сакрэтных складах знаходзяцца ўстаноўкі для атамных падводных лодак і што разглядаецца пытанне аб іх выкарыстанні ў якасці альтэрнатыўных крыніц энергіі. Адна такая ўстаноўка здольная забяспечыць энергіяй горад з насельніцтвам 200—300 тысяч чалавек. Прычым, па нашых даных, ядзернае паліва для такіх установак абыдзецца больш танна, чым паліва для АЭС.**

*("Аргументы і факты ў Беларусі").*

## «БЕРАСЦЕЙСКАЕ ВОГНІШЧА»

Такое метафарычнае азначэнне росквіту культуры роднага краю, творчага гарэння пісьменніцкіх талентаў яшчэ ў 60-х гадах даў выдатны крытык і літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Калеснік. Цяпер пад такою назвай праходзяць традыцыйныя літаратурныя святы ў Брэсце. Зусім нядаўна каля "берасцейскага вогнішча" зноў сабраліся шматлікія прыхільнікі творчасці Ніны Мацяш і Міколы Купрэева, Алеся Каско і Зінаіды Дудзюк, Міколы Пракаповіча і Васіля Сахарчука, іншых сяброў абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аддзяленне трымала творчую справаздачу перад чытачамі з нагоды свайго 15-годдзя.

*ГУТАРКА З ПАСЛОМ*

## Кенет ЯЛАВІЦ:

# «БЕЛАРУСЬ МАЕ ДЛЯ ЗША ПЭЎНЫ ІНТАРЭС»

*— Якім быў ваш шлях да пасольскай пасады ў Беларусі?*

— Мой шлях да прызначэння паслом ЗША ў Беларусі пачаўся ў 1966 годзе, калі я паступіў на службу ў дыпламатычны корпус ЗША. Служба складвалася вельмі цікава: я двойчы працаваў у пасольстве ЗША ў Маскве (у 1975—1977 і 1991—1993 гадах) і займаў шэраг пасад, звязаных з палітыкай у адносінах да Савецкага Саюза, у Вашынгтоне. Цікавасць да гэтай часткі свету я зведваў даўно. Я вывучаў рускую мову, гісторыю, палітыку і эканоміку краін гэтага рэгіёна. У 1988 годзе мне быў прысвоены вышэйшы дыпламатычны ранг, а ў жніўні 1994 года прэзідэнт Клінтан прапанаваў маю кандыдатуру на пасаду пасла ЗША ў Беларусі. У кастрычніку 1994 года я ўступіў на гэтую пасаду, пасля таго як маё прызначэнне было пацверджана сенатам. З 4 лістапада 1994 года я ў Беларусі.

*— У чым асаблівасці падрыхтоўкі дыпламатаў у ЗША? У тым ліку для краін Усходняй Еўропы, былога СССР?*

— Усе амерыканскія дыпламаты прыходзяць на дыпламатычную службу праз адкрыты конкурсны адбор. Амаль ва ўсіх выпадках да прызначэння дыпламата ва Усходнюю Еўропу ці былы Савецкі Саюз кандыдаты праходзяць інтэнсіўную моўную падрыхтоўку, а таксама займаюцца на курсах па гісторыі, палітыцы і эканоміцы рэгіёна. Моўная і краіназнаўчая падрыхтоўка ажыццяўляецца ў Нацыянальным цэнтры навучання знешнепалітычнай дзейнасці каля Вашынгтона. І хаця здараецца, што пачынаючыя дыпламаты ўжо дастаткова падрыхтаваны для работы ў канкрэтным рэгіёне ці краіне, акцэнт у дыпламатычнай падрыхтоўцы ў ЗША робіцца на выхаванне "універсалаў", якія могуць эфектыўна працаваць у розных краінах на працягу ўсёй сваёй кар'еры. Апрача спецыфічнай падрыхтоўкі па краіне ці рэгіёну на розных этапах сваёй кар'еры дыпламат можа вяртацца ў навучальны цэнтр для праходжання курсаў па розных галінах ведаў, такіх, як кіраванне, складанне эканамічных і палітычных справаздач, фінансавая дзейнасць ці работа з камп'ютэрам.

*— Ці ёсць асаблівасці ў кантактах паслоў, якія прадстаўляюць краіны НАТО ў якой-небудзь дзяржаве? Магчыма, традыцыі ці сакрэтныя правілы?..*

— Сустрэчы амерыканскіх паслоў са сваімі калегамі — нармальная практыка. Такія сустрэчы праводзяцца для абмеркавання палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне прызначэння, прычым як з пасламі краін НАТО, так і краін — членаў Еўрапейскага Саюза, іншых структур. Гэта нармальная частка дыпламатычнай дзейнасці. Тут, у Беларусі, мэта такіх сустрэч заключаецца ў абмене інфармацыяй і каардынацыі далейшых намаганняў па падтрымцы эканамічных і палітычных рэформ.

*— Быт амерыканскага дыпламата ў Беларусі. Узнікшае кола праблем. У чым адрозненні ад іншых краін?*

— Кожная краіна мае унікальнае для работы дыпламата асяроддзе. Вельмі станоўчымі момантамі работы тут з'яўляюцца цеплыня і гасціннасць беларусаў. Я многа езджу па Беларусі, і кожны раз мяне зноў і зноў уражвае дабрыня і цеплыня аказваемага мне прыёму. З другога боку, многія дыпламаты адчуваюць, што знаходзяцца тут у баку ад асноўных інфармацыйных патокаў. Я, напрыклад, чалавек, прагны да газетнай інфармацыі, і мне вельмі не хапае рэгулярнага і своечасовага доступу да газет з Заходняй Еўропы і Злучаных Штатаў.

*— Кар'ера амерыканскага дыпламата і прэстыжнасць краіны знаходжання — якая тут сувязь?*

— ЗША лічаць у роўнай ступені важнымі ўсе краіны, з якімі падтрымліваюць дыпламатычныя адносіны. Назначэнне на пасаду пасла азначае пік кар'еры дыпламата. Прэстыжнасць і важнасць пасады пасла не залежаць ад краіны прызначэння. Беларусь уяўляе для ЗША значны інтарэс, і пасольства адыгрывае важную ролю ў фарміраванні і ажыццяўленні адносін паміж нашымі краінамі.

*— Наколькі сур'ёзна змяненне стэрэатыпаў пасля набыцця дыпламатычнага вопыту ў той ці іншай краіне? Гэты вопыт — новы культурны багаж ці нешта большае, што можа аказаць уплыў на фарміраванне светапогляду?*

— Незалежна ад аб'ёму прачытанага і вывучанага пра краіну сапраўдныя веды пра яе прыходзяць толькі з жыццём і працай у ёй. Я прыехаў у Мінск, каб садзейнічаць паляпшэнню адносін паміж дзвюма краінамі і аказваць суверэннай, незалежнай Беларусі падтрымку на шляху ператварэння ў дэмакратычную дзяржаву з рыначнай эканомікай. І хаця гэтыя пераўтварэнні ідуць не так хутка, як нам хацелася б, мы лічым, тым не менш, што доўгатэрміновыя перспектывы застаюцца добрымі. Мы маем намер заставацца тут і працаваць з тымі, хто адданы тым жа мэтам.

**(З інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла ЗША ў Беларусі Кенета ЯЛАВІЦА "Белорусской газете").**

ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ



**Праваслаўны храм у Шчучыне.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ВЯЗЕНЬ КАМЕРЫ ТРЫНАЦЦАЦЬ

Пад Літвой Незабытоўскі меў на ўвазе зусім не сённяшнюю Літву, а Беларусь. Называючы яе "радзімай Літвой", што было ў духу таго часу, ганарыўся, наколькі ліцвіны валодалі пачуццём нацыянальнай годнасці, як высока неслі яны ідэі незалежнасці: "не давалі спуску нікому і і білі ўсіх, незважаючы, ці гэта быў паляк, ці рускі". І ўвогуле, Незабытоўскі быў вельмі высокай думкі пра свой народ. Згадваючы пра паўстанне 1830—1831 гадоў, неаднаразова падкрэсліваў, наколькі інакш маглі б разгортвацца тагачасныя падзеі, калі б кіраўнікі яго рабілі большую стаўку на ліцвінаў. Скажам, прыгадваючы выступленне генерала Дзвярніцкага, як папрок кідаў яму, што той не пайшоў на Пінск і Мазыр, дзе яго мясцовае насельніцтва абавязкова падтрымала б.

Незабытоўскі ў 1845 годзе выдаў у Парыжы і свой франкамоўны раман "Мары пра каханне, славу і свабоду". Так сталася, што гэты твор немагчыма знайсці нават у буйнейшых кнігасховішчах былога Савецкага Саюза. З вялікай цяжкасцю С. Александровічу ўдалося высветліць, што адзін экземпляр яго толькі ў фондах Французскай нацыянальнай бібліятэкі ў Парыжы. Хацелася б верыць, што калі-небудзь раман усё ж будзе перакладзены на беларускую мову. І не толькі з-за павагі да памяці Незабытоўскага, а яшчэ і таму, што гэта не проста раман, а раман-утопія. Яшчэ за дваццаць гадоў да напісання М. Чарнышэўскім "Што рабіць?" наш зямляк задумваўся над будучым упарадкаваннем беларускай дзяржавы. Згодна з аўтарскай версіяй, нацыянальна-вызваленчая рэвалюцыя, што адбылася ў сярэдзіне XIX стагоддзя на тэрыторыі Польшчы і Беларусі, прывяла да перамогі народа. Як жа жылі беларусы пасля гэтых сацыяльных падзей, — і даецца адказ у рамане. Тым самым Незабытоўскі хацеў як бы на практыцы ўвасобіць уласныя ідэі аб сацыяльным вызваленні і нацыянальным разняволенні.

Цікавіла яго і гістарычнае мінулае. Пацвярджэнне таму — драматургічныя творы. У 1844 годзе ў Вільні выйшлі п'есы "Разамунда" і "Барбара", у 1845—1846 — у Парыжы "Ядвіга" і "Кацярына Вялікая". Калі ў першай дзеянне разгортваецца яшчэ ў VI стагоддзі, дык "Барбара" — больш блізкая аўтару мінуўшчына. Незабытоўскі ці не першы асэнсаваў гісторыю кахання і ўзвышэння Барбары Радзівіл. Яшчэ дзве п'есы, як бачна з іх назваў, прысвечаны польскай каралеве Ядвізе і вядомай рускай імператрыцы. У мастацкіх адносінах, праўда, значнага поспеху Незабытоўскаму дасягнуць не ўдалося. У нечым сказалася неразуменне ім законаў жанру, у чымсьці — прасталінейнасць у падыходзе да тэмы, што вяло да апісальніцтва.

Гэта ўсё, што ён паспеў надрукаваць, але ж вельмі многае засталося ў рукапісах. Сярод папер і дзённік "Падарожны журнал і падарожныя нататкі", які Незабытоўскі вёў у час паездкі ў 1844—1847 гадах за мяжу, і некалькі артыкулаў, і нават "Песня барда", якую С. Александровіч палічыў "урыўкам з нейкага паэтычнага твора"...

Але вернемся да следства, што вялося па справе Незабытоўскага. Дазвол на ліставанне з блізкімі людзьмі, у прыватнасці, з сястрой, як бачым, нічога станоўчага не даў. Тады Міркові̇ч зрабіў яшчэ адзін захад, які пры паспяховым ажыццяўленні, як здавалася яму, усё ж мог прынесці жаданы поспех. Разумеючы цяжкі стан Незабытоўскага, яму чарговы раз пайшлі насустрач. Нічога не мелі супраць яго звароту з прашэннем на імя цара. Меркавалі, што жадаючы змякчыць ступень немінучага пакарання, ва ўсім прызнаецца і "скажа пра свае злачынныя задумы і сувязі". Так тлумачыў сваю задумку Міркові̇ч у рапарце Паскевічу.

Як і чакалася, Незабытоўскі ад прапановы не адмовіўся. І паставіўся да яе быццам самым сур'ёзным чынам. Напісаў прашэнне ажно на 28 старонках. Дарэчы, па-французску. Але прачыталі ўсё гэта ў камісіі і за галаву схапіліся. Барані Божа, каб Мікалай І хоць даведаўся пра існаванне падобнага прашэння! Ніякага, нават самага маленькага жадання ў ім раскаяцца. А месцамі дык зусім — абразы, дзёрзкасць. Не абышлося і без непрыстойных выразаў, лаянкі.

Следчай камісіі пасля гэтага нічога не заставалася, як перадаць справу Незабытоўскага на разгляд ваеннага суда. А паколькі вязень па-ранейшаму настойваў, каб яго судзіў звычайны суд і прытым у Мінску, ніякага працэсу па сутнасці не вялося. Проста ў вузкім коле рыхтаваўся абвінаваўчы акт і прыгавор. Само ж абвінавачванне заняло ажно восем пунктаў. Сярод іх быў і такі: "Заўсёды паказвае сябе заўзятым дэмакратам, які прагне царскай крыві, хоча знішчыць трон і законныя ўлады і называе сябе апосталам бунту і вестуном перамогі для сваіх аднадумцаў, раз'юшана ўсклікаючы: "Няхай загінуць дэспаты, смерць царам, няхай жыве рэспубліка і свабода!"

Незабытоўскага чакала самае суровае пакаранне па тагачасных законах. Але, паколькі ён з'яўляўся асабліва небяспечным злачынцам, першапачатковы прыгавор ваеннага суда праходзіў праз інстанцыі. Удакладненні ўносілі генерал-губернатар Міркові̇ч, а таксама палявы аўдатарыянт дзеючай арміі і генерал-фельдмаршал Паскевіч. А ў выніку адстаўны губернскі сакратар Незабытоўскі прыгаворваўся да пазбаўлення маёмасных правоў з пераламленнем катам над яго галавой шпагі і высылкі на руднікі тэрмінам на дваццаць гадоў.

Сам жа злачынца ў гэты час знаходзіўся ў такім цяжкім стане, што пакуль было не да аб'яўлення яму прысуду. А пачалося ўсё з таго, што Незабытоўскі ў знак пратэсту аб несправядлівасці ў дачыненні да яго аб'явіў галадоўку. Адмовіўся і ад лекаў.

Не ведаў Незабытоўскі, што ўвесь час, пакуль ён знаходзіўся на мяжы жыцця і смерці, ішла перапіска са сталіцай. Нарэшце ваенны міністр генерал-ад'ютант Чарнышоў паслаў загад Паскевічу і іншым высокім чынам, хто меў непасрэднае дачыненне да гэтай справы, распараджэнне Мікалая І. Цар праявіў "чалавечнасць": "Як толькі гэты злачынец атрымае дастатковую палёгку ў хваробе, адправіць яго на месца прызначэння ў рэсорным вазку".

Ды Незабытоўскаму было ўжо не да "спагады". Загад быў атрыманы 22 сакавіка 1849 года, а вязень развітаўся з жыццём вечарам 21 сакавіка... Шпітальная палата з новымі жалезнымі кратамі (а гэта таксама было прадугледжана для хутчэйшага выздараўлення) яму ўжо не спатрэбілася. Пахавалі яго 25 сакавіка на шпітальных могілках. Як звычайнага арыштанта...

Так і развітаўся назаўсёды са светам вязень трынаццатай камеры-адзіночкі. Не зразуметы сучаснікамі і на шмат дзесяцігоддзяў забыты нашчадкамі. Кім па-належнаму ацэнены, дык гэта сваімі ворагамі. Яны то ведалі, хто перад імі. Таму і паспяшаліся напісаць на следчых матэрыялах: "Захоўваць вечна". І не падумалі нават, што тым самым працуюць на... увекавечванне памяці Незабытоўскага.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 3.**

***ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ***

# ПАЎТАРЫ ГАДЗІНЫ НА... БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

Узяцца за напісанне гэтага артыкула мяне прымусіла наступная акалічнасць. Ад 1 верасня я пачаў чытаць новы прадмет "Замежная літаратура", які на Украіне замяніў знаёмы нам курс "Русской литературы". Сёе-тое з яго, праўда, увайшло і ў курс "Замежнай літаратуры". І налічвае гэта "тое-сёе" аж 113 гадзін з 476 увогуле адведзеных Міністэрствам асветы Украіны на вывучэнне замежнай літаратуры ў 5—11 класах. Думаю, вам, шаноўнае спадарства, будзе цікава даведацца, як жа ўкраінскія школьнікі вывучаюць замежную літаратуру. Дык вось, як я ўжо падаў вышэй, рускай літаратуры адведзена 113 гадзін, англійскай — 55, французскай — 44, амерыканскай — 42, нямецкай — 26 гадзін. Замыкаюць "шасцёрку" канадская ды польская літаратуры: складальнікі праграмы выдзелілі на вывучэнне гэтых літаратур аж па 7 гадзін. Іншым пашанцавала менш! Мяркуйце самі: на яўрэйскую і перса-таджыкскую выдзелена па 5 гадзін, па 4 гадзіны — на іспанскую, грузінскую і чэшскую, па 3 гадзіны — на дацкую і нарвежскую, па 2 гадзіны — на аўстрыйскую, швецкую, калумбійскую і азербайджанскую. Беларускай літаратуры на ўвесь курс замежнай літаратуры ў 5—11 класах адведзена... 1,5 гадзіны! Мала?! А вунь венгерскай, бельгійскай, румынскай, балгарскай, сербскай, японскай, казахскай пашанцавала яшчэ менш — усяго па 1 гадзіне. У аглядах успамінаюцца армянская, літоўская і кабардзінская літаратуры.

"Прэч інтэрнацыяналізм!" — так коратка можна ахарактарызаваць праграму курса "Зарубіжна література", бо ў ёй не знайшлося месца такім багатым літаратурам, як латышская, эстонская, туркменская, узбекская, кіргізская; толькі ў аглядах успамінаюцца літоўская і армянская літаратуры, а 1,5 гадзіны на беларускую літаратуру мною ўспрымаюцца, як здзек, як недарэчны "жарт" укладальнікаў праграмы К. А. Шахава — доктара філалагічных навук і ягоных памочнікаў у асобах кандыдатаў філалагічных навук В. С. Кузэмскага, М. Н. Нагорнай, К. М. Пахаравай і С. П. Шчолакава, якія ўчацвярых стваралі вышэйпамянёную праграму.

Каму ж "пашанцавала" з беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, хто з іх змог "умясціцца" ў 1,5 гадзіны?! Адна гадзіна аддадзена Францішку Багушэвічу ў 10 класе, "як одному із засновникiў білоруської літератури". У 8 класе для самастойнага чытання і абгаворвання прапануюцца два вершы Максіма Танка: "На Україні", "Вінок". У выпускным, 11 класе, у аглядзе "Сторінкі із світової поезії XX століття", на які адведзена 1 гадзіна часу, пазначана прозвішча класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы разам з прозвішчамі Рыльке (Аўстрыя), Эліот (ЗША), Незвал (Чэхія), Галчынскі (Польшча). Урок — 45 хвілін, значыцца, на аднаго паэта "прыпадае"... 15 хвілінаў. За гэты адрэзак часу выкладчык літаратуры павінен паказаць вучням "глибоку народність творчості Янки Купали та гуманістичні ідеали у збірці "Жалейка". Українські мотиви в поемі "Бондарівна"...

Хацеў бы я запрасіць аднаго з укладальнікаў у клас да сябе, каб ён за 15 хвілін змог расказаць пра генія беларускай літаратуры Янку Купалу!..

Чацвёртым прадстаўніком беларускай літаратуры з'яўляецца народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў: яго імя ўспамінаецца ў аглядзе "Література 60-х — початку 90-х років" у раздзеле... "З російської літератури", на асвятленне творчасці пададзеных тут 48 пісьменнікаў адведзена аж 3 гадзіны часу. Побач з Васілём Быкавым прозвішчы: В. Някрасава, К. Вараб'ёва, В. Кандрацьева, Ю. Бондарава, Г. Бакланава, В. Гросмана, Ф. Абрамава, В. Астаф'ева, Ч. Айтматава, Ф. Іскандэра (не толькі, аказваецца, Васіля Быкава зрабілі "російським" пісьменнікам, а й Айтматава з Іскандэрам!), В. Распуціна і г. д. Думаю, што ўжо тых прозвішчаў, што я назваў, дастаткова, каб зразумець, што за 3 гадзіны аб іх творчасці расказаць немагчыма, бо "нельзя объять необъятное"!

Беларусь мяжуе з Украінай, беларускі і ўкраінскі народы разам з рускім народам выйшлі ўсе з адной дзяржавы — Кіеўскай Русі. Здавалася б, што ўкладальнікі праграмы найбольшую ўвагу звернуць менавіта на літаратуру двух родных украінскаму народу: рускага і беларускага. І калі на рускую літаратуру сапраўды адведзена аж 113 гадзін, то з беларускай літаратурай абышліся вельмі і вельмі па-хамску, не пабаюся гэтай ацэнкі складальнікаў праграмы. Як можна было абысці маўчаннем дзейнасць Францішка Скарыны — аднаго з першадрукароў усходніх славян, не згадаць Дуніна-Марцінкевіча з яго славутай "Пінскай шляхтай", у якой пазнаюцца і рысы ўкраінскіх палешукоў. А што значыцца прамінуць Якуба Коласа?! Яго паэму "Новая зямля" можна паставіць у адзін шэраг з творам Аляксандра Пушкіна "Яўгеній Анегін" ці з "Панам Тадэвушам" Адама Міцкевіча! На ўкраінскай зямлі пакоіцца прах яшчэ адной зоркі беларускай літаратуры — Максіма Багдановіча. Але дзе пра яго згадваецца ў праграме? А ён жа так хораша апеў Крым, Ялту! На Украіне вучыўся, тут жыў і працаваў шчыры прыхільнік украінскай літаратуры Уладзімір Караткевіч, чалавек надзвычай таленавіты, рознабаковы, які пісаў адначасова добра і паэзію, і прозу. Няма згадкі і пра яго, як няма і пра іншых славутых паэтаў і пісьменнікаў беларускай літаратуры: Івана Мележа і Івана Шамякіна, Кузьму Чорнага і Міхася Лынькова, Кандрата Крапіву і Петруся Броўку, Пімена Панчанку і Еўдакію Лось, Аркадзя Куляшова і Сяргея Грахоўскага... Больш пашанцавала вучням аднае школы на Украіне: Ізяслаўскай СШ № 1 Хмяльніцкай вобласці, дзе я працую і стварыў гурток беларускай культуры "Зорка Венера", падчас заняткаў у якім мае выхаванцы знаёмяцца з лепшымі здабыткамі лепшых прадстаўнікоў беларускай літаратуры, якім не знайшлося месца ў праграме "Зарубіжна література"...

...Баліць маё сэрца і за такіх зорак сусветнай літаратуры, чые творы перакладзены на дзесяткі моў народаў свету, як аварскі паэт з Дагестана Расул Гамзатаў, як цэлае сузор'е з Літвы: Крысціёнас Данелайціс, Жэмайтэ, Саламея Нерыс, Эдуардас Межэлайціс, Йонас Авіжус, як Ян Райніс — класік латышскай літаратуры, як эстонскія пісьменнікі Таамсарэ і Крэйцвальд, як грэк Тэадаракіс, як туркмен Мухтумкулі... І гэты спіс можна працягваць яшчэ не на адзін дзесятак прозвішчаў. Дык што ж тады прапануюць укладальнікі праграмы дзецям украінскамоўных школ? На прыкладах якіх герояў мы, выкладчыкі замежнай літаратуры, павінны выхоўваць у іх грамадзянскія пачуцці, любоў да Бацькаўшчыны, зямлі, на якой яны нарадзіліся і жывуць? У 5 класе, дзе мне даводзіцца чытаць гэты прадмет, напачатку дзеці знаёміліся з міфамі старадаўняй Грэцыі, казкамі народаў свету, Біблiяй для дзяцей. Потым пайшлі літаратурныя казкі. Сярод аўтараў казак Пушкін, Перо, браты Грым, Андэрсен, Кіплінг, Уолт Дзісней, Ліндгрэн. Заканчваецца вывучэнне курса раздзелам "Замежная мастацкая літаратура", у якім прапанаваны для вывучэння прадстаўнікі шасці літаратур: нямецкай (Распе), французскай (Беранжэ, Жуль Верн), рускай (Пушкін, Гогаль, Тургенеў), англійскай (Дэфо), амерыканскай і канадскай (Брэдберы, Джэк Лондан, Эрнест Томпсан). Калі бліжэй знаёмішся са зместам прапанаваных твораў, становіцца зразумелым, што не ўсё дойдзе "до ума и сердца" дзіцяці ў 10—11 гадоў! Калі з "Муму" Тургенева ўсё зразумела, то што казаць пра навукова-фантастычныя творы Рэя Брэдберы, якога і дарослыя не ўсе адважваюцца чытаць?! На мой погляд, цяжка яшчэ ўспрымаць і творы Жуля Верна ў 5 класе, як і П'ера Беранжэ... Усё далёкае, "заморскае", невядомае, і ў многіх дзяцей прападае радасць ад трымання ў руках падручнікаў "Зарубіжноі літератури", многія не могуць пераказаць нават змест прачытанага, не кажу ўжо пра больш высокія "матэрыі", як аналіз твора, яго ацэнка вучнямі...

Як кажуць, "адпіхнуліся" ад рускай літаратуры, але вось да паўнавартаснай "замежнай" літаратуры, на правялікі жаль, не дабрылі! "Праглядзелі", як бачым, не толькі беларускую літаратуру, але і польскую, бо 7 гадзін адводзіцца аж на 6 прозвішчаў: Адам Міцкевіч (3 гадзіны) і па 1 гадзіне на Яраслава Івашкевіча, Баляслава Пруса, Юліяна Тувіма, Генрыка Сянкевіча, у аглядзе — Галчынскі... А дзе Жэромскі, дзе Норвід, дзе Ажэшка, дзе Чэслаў Мілаш, дзе Мрожэк, дзе Юльюш Славацкі, які нарадзіўся на Украіне, Марыя Канапніцкая?! Так што і тут, відаць, "недапрацоўка" або непавага да польскай літаратуры з боку складальнікаў праграмы. А польская літаратура аказвала не меншы ўплыў на творчасць украінскіх пісьменнікаў, чымсьці руская!..

Хочацца спадзявацца, што хібы праграмы заўважыў не я адзін і яна ў рэшце рэшт будзе перагледжана нанава, да яе складання будуць прыцягнуты сапраўдныя знаўцы літаратуры народаў свету. Пачакаем...

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

Украіна,
г. Ізяслаў.

# КАЛЯ МАГІЛЫ ГЕРОЯ...

Той Дзень Перамогі выдаўся, як і прадказвалі сіноптыкі, зменліва-хмарны з кароткачасовымі дажджамі. Шэрыя хмары то ніжэй апускаліся да зямлі, сям-там ужо пырскалі дробныя кроплі, то раптоўны вецер іх падхопліваў і ганяў па небу, не даючы, па-сапраўднаму добра выплакацца. Невялічкія купкі людзей у плашчах і пад парасонамі спешна падыходзілі да магіл загінуўшых воінаў, клалі кветкі і таксама спешна хаваліся пад кроны таполяў і бяроз. Непадалёку ад галерэі, дзе пахаваны Героі Савецкага Саюза, пад старой развесістай ліпай, стаіць жанчына з сівой акуратнай прычоскай, у чорным фрэнчы і ў белай, вышытай беларускім узорам кофтачцы. Па яе маршчыністым твары сцякаюць ці то кроплі дажджу, ці то кроплямі падаюць з глыбіні душы слёзы, выкліканыя ўспамінамі аб мінулым, хто ведае? У апошнія гады ў душах людзей накапілася слёз не менш, чым у небе хмар, асабліва ў тых, хто перажыў вайну, страціў сілы і здароўе, а цяпер кінуты ў новыя рынкавыя ўмовы, як нікому непатрэбны тавар. Так званая сацыяльная абарона — толькі маральная абалонка. Дзяржава сёння эканамічна не ў стане гарантаваць больш, чым жабрацкую старасць. А дачакацца ад новых багатых дабрачыннасці даводзіцца далёка не ўсім.

Можа быць аб гэтым зараз думае Фіціння Шчука? Яна рыхтавалася да гэтага свята і з самага ранку тут. Да цэнтральнага ўваходу да Узгорка Славы падыходзяць музыкі вайсковага аркестра, і праз некалькі хвілін прадстаўнікі ўлады ўрачыста адкрыюць свята. Тым часам хрыпатыя ад макраты рэпрадуктары разносяць па наваколлі мелодыі ўкраінскай песні "Два колеры"... Дзе чырвоны — пра любоў, а чорны — пра журбу. Гэтая мелодыя дадавала суму ў невясёлае свята і навявала роздум аб часе і долі. А з двух бакоў, як дзве хмары, набліжаюцца дзве калоны ветэранаў пад рознымі прапарамі, яны наэлектрызаваныя, як плюс і мінус. І хоць улады намагаліся іх развесці ў часе, яны ўсё-такі сцебануліся, як каметы хвастамі, і запахла навальніцай. І толькі, мабыць, сізы колер галоў абедзвюх калон ды міліцыянерскі кардон, які стаяў непадалёк, не дазволілі грымнуць навальніцы. Буркліва і з нянавісцю яны разышліся. І як жа доўга на ўвесь гэты Божы свет мы будзем глядзець скрозь чорна-белы экран?!

Жыццё Фіцінні Іванаўны таксама прайшло пад гэтымі двума колерамі. З Усходу — светлае камуністычнае чырвонае заўтра, а з Захаду — загніваючы, а значыць, чорны капітал. З піянерска-камсамольскага дзяцінства адразу кінутая ў вогнішча Айчыннай вайны, дзе поруч заўсёды жыццё і смерць, яна добра ведае цану перамогі. І зноў два колеры: напаўсвета чорная ноч фашызму і светлы Дзень Перамогі. Партызанскае юнацтва і маладосць Фіцінні прайшлі ў лясах і балотах Беларусі. Да гэтай пары самае дарагое багацце ў яе хаце — франтавыя здымкі з атрадаў Данукалава, Раманава, Заслонава. Напярэдадні свята яна каторы раз іх акуратна перагарнула і паклала ў скрыначку разам з ордэнамі і медалямі за вайну.

— Успамінаць вайну цяжка, — ціха, нібы адтуль, з далечыні, гаворыць Фіціння Іванаўна, — шмат дарагога незваротліва страчана. І шчыра кажучы, не шкадавалі мы дзеля Перамогі ні рук, ні ног, ні нават самога жыцця.

Перамога вялікай Радзімы была вышэй за усё. Здавалася, засталося толькі трошкі: адбудаваць разбуранае вайною і зажыць па-людску. І яна, няхай адной рукою, якая засталася пасля вайны, працуе і за сябе, і за таго хлопца, як тады любілі гаварыць. Гэта і пра яе пісаў беларускі класік Я. Колас:

**...Яе жаночая работа**
**І гэта вечная турбота**
**То каля печы, то на полі**
**Сказаць, не зводзіцца ніколі,**
**Адно прыпыніш — там**
**другое,**
**Глядзіш, як бачыш,**
**набяжыць —**
**І ручак некалі злажыць —**
**Жыццё жаночае такое!**

Працавала шмат гадоў тэлефаністкай, экскурсаводам у музеі і на іншых пасільных працах. І яшчэ ў вольны ад работы час бралася за вышыванне. І вось тады, нібы ў летуценні, узнікала яе родная Віцебшчына: узгоркі і лясы, палі і плёсы, залацістае жыта і васільковая бездань неба. Тады ўсімі фарбамі вясёлкі адсвечваўся яе Бешанковіцкі раён, яе родная вёска, і на белым палатне ўзыходзіла "сонейка". Дарэчы, як вядома, на Беларусі сонца вышываецца ромбам з парасткамі. Калі яны роўныя, як промні, — гэта значыць узыходзячае сонца, а з загнутымі парасткамі — якое зайшло. Дык вось апошніх астатнім часам значна пабольшала.

Палеглі ў дарагой беларускай зямлі ўсе яе родныя і блізкія: бацькі, браты, сёстры. Ды і не толькі ў беларускай. Тут, на ўзгорку Славы ў Львове, ляжыць яе любоў, яе каханне, яе Чалавек, яе муж, — Герой Савецкага Саюза, гвардыі лейтэнант Уладзімір Свідзінскі. Таму яна і засталася адна ва ўсім свеце, і, як гэтую самотную ліпу, абдуваюць яе з усіх чатырох бакоў шалёныя вятры жыцця.

У партызанскім жыцці Фіцінні Іванаўны быў такі эпізод, калі ёй давялося разам з сябрамі ратаваць групу дзяцей ад угону ў нямецкі палон. Потым двума самалётамі іх пераправілі на Вялікую зямлю, у Шчолакава, што пад Масквой. Таму і просіць Фіціння Іванаўна, можа хто з тых, хто ўратаваўся, успомніць юную партызанку ці яе сяброўку Веру Андрыянаву, з якой яна суправаджала гэтыя самалёты. Напішыце ёй у Львоў, адрас ёсць у рэдакцыі. Ёй гэта зараз вельмі неабходна.

А так жывецца, як жывецца. Усім зараз цяжка. Бог дасць, усталюецца незалежная Украіна — і будзе тады лепей. А Бацькаўшчына (Фіцiння Іванаўна ўздыхнула) — толькі ў каляровых снах, прачнешся ж — жыццё чорна-белае, як той стары тэлевізар.

Развіталіся мы на лаўцы. Дождж ужо сціх, зрэдку з-за хмар праглядвала сонца. Вось так і жыве дачка твая, Беларусь, былая партызанка, ветэран вайны і працы, жонка Героя. Анічога не просіць, анічога не чакае.

**Барыс ЦІМОШЧАНКА.**

Украіна,
г. Львоў.

# НА СКРЫЖАВАННІ

На з'ездзе гасцей, мабыць, было больш, чым дэлегатаў з'езда: масквічы займалі першы рад прэзідыума. Работнікаў саюзных часопісаў, выдавецтваў і газет шчодра частавалі прадстаўнікі рэспублік, а тыя абяцалі надрукаваць і выдаць і тут жа забывалі пры чарговым пачастунку. Броўку ведалі ўсе і сустракалі з асаблівай пашанай. Ён быў аднолькавы з усімі — далікатны, ветлівы і ўважлівы.

З'езд ішоў, як усе з'езды: з завізіраванымі дакладамі і прамовамі, прывітаннямі ад рэспублік. З Сярэдняй Азіі і каўказцы прыязджалі цэлымі брыгадамі і абавязкова з жонкамі. Дармовыя вячэрыператвараліся ў доўгія шумныя банкеты. А на заключным урадавым прыёме ледзь не да раніцы сядзелі: "тоставалі", жартавалі і спявалі, узяўшыся пад рукі, першы сакратар ЦК Снечкус, Старшыня Вярхоўнага Савета Палецкіс, міністры і высокія чыны.

З шумных застолляў Броўка ўмеў знікаць "па-ангельску", непрыкметна. Кіўнуў мне і вельмі сімпатычнаму маскоўскаму празаіку Барысу Зубавіну: "Добра, што ўцяклі з гэтага гармідару. Хадзем да мяне і па-людску пагаворым". Зубавін расказваў смешныя гісторыі з свайго юнацтва і пра норавы некаторых славутых маскоўскіх калег, не маўчаў і Броўка, а я толькі слухаў старэйшых пісьменнікаў. Разышліся за поўнач. У пакоі ўспомніў пра абяцанне літоўскаму радыё сказаць аб сваіх уражаннях ад з'езда. З гадзіну яшчэ маракаваў над старонкаю нейкага банальнага тэксту. Заснуў гадзіны ў тры раніцы... Праз глыбокі сон чую стук у дзверы, ускочыў, пытаюся "хто?" Моцны сон перабіў Петрусёў голас: "Досыць спаць". Адчыніў дзверы. Стаіць вясёлы, свежы, ружовашчокі Пятрусь Усцінавіч: "Я ўжо нагуляўся, абышоў усю плошчу Гедымінаса. Пуста, ціха, ні душы. От калі сама палюбавацца горадам. Вільню ж амаль не кранула вайна. Якія цудоўныя касцёлы, саборы, палацы, а ў нас усё спляжана. Збірайся, пап'ём гарбаты, і мне ж ісці на радыё. А ўвечары запрашае да сябе дадому Палецкіс. Так што нікуды не адлучайся. Гадзін у шэсць прыйдзе машына". — "І мяне?" — здзівіўся я. "А як жа. Мы ж абодва госці з'езда. Ён папярэдзіў быць разам. І яшчэ петразаводскага паэта запрашаў".

Увечары мы былі на ўскраіне Вільнюса ў непрыкметным двухпавярховым доме Старшыні Вярхоўнага Савета Літвы і СССР. Ніякай аховы і блізка не было. Крутая лесвіца на другі паверх здзівіла: у сцены ўрэзаны паліцы, забітыя кнігамі знізу даверху. Кабінет гаспадара нагадваў найбагатшую бібліятэку: мільгалі карэньчыкі старажытных рарытэтных выданняў, літоўская і руская класіка, сучасная літаратура, пазнаваліся і беларускія выданні.

Частавала нас інтэлігентная, ласкавая і ветлівая гаспадыня каваю, хрусткімі грэнкамі з сырам і разнастайнымі бутэрбродамі, салодкім пірагом і яблыкамі. Прыгожы, усмешлівы і дасціпны Палецкіс, здавалася, ведае ўсё: сусветную літаратуру, норавы ў многіх краінах, пакепліваў над валтузнёю маскоўскіх літаратурных клеркаў за прэміі, ордэны і званні. Здзівіла, што добра ведае беларускую літаратуру і асабліва паэзію, бо сам быў раманіст і паэт. Трошкі падвяселеныя гаспадар з Петрусём заспявалі "Купалінку", "Як сарву я ружы кветку". Потым Палецкіс заспяваў такія беларускія песні, якіх мы не ведалі і не чулі. Мелодыі многіх літоўскіх і беларускіх песень супадаюць нота ў ноту, таму ў застоллях, калі ўсе бяруцца падпашкі і пачынаюць спяваць, адну і тую ж песню суладна спяваюць на розных мовах. А тут Юстас Ігнавіч нас здзівіў і нават нібыта прысароміў. Па дарозе ў гасцініцу Пятрусь круціў галавою: "Ну, Юстас! Загнаў нас у кут. А песні якія! Дзе нашы фалькларысты і кампазітары? Га?"

На нашым пісьменніцкім з'ездзе ў 1966 годзе мне не давялося быць. У дзень яго адкрыцця 10 мая мы з пісьменнікам Ігнатам Дуброўскім былі турыстамі ў Лондане. Хацелі даць тэлеграму, але ні фунтаў, ні пенсаў у нас не хапіла. Мы былі ўпэўнены, што ўсё прайшло гладка і аднагалосна. А, вярнуўшыся, быў ашаломлены: прагная да ўлады маладая фронда з крыкамі і свістам стварыла абструкцыю Броўку, забыўшыся пра ўсё добрае, што ён ім рабіў і зрабіў. Стварылі калектыўнае кіраўніцтва, замест аднаго, абралі паўтузіна сакратароў з дзяжурствам раз у тыдзень.

Броўка балюча перажыў не "пераварот", а здраду сваіх выхаванцаў і прылашчаных маладых талентаў. Кожная здрада нечаканая і балючая. А вось пашану, увагу і высокі аўтарытэт у вярхах і сярод пісьменнікаў ён нікольkі не страціў. Было створана выдавецтва першай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі", і яго ўзначаліў Броўка. Ён з розных інстытутаў Акадэміі навук, з рэдакцый, выдавецтваў, з галіновых часопісаў сабраў самых дасведчаных і таленавітых работнікаў, скамплектаваў рэдакцыі па ўсіх галінах энцыклапедычных ведаў. Да Броўкі на працу ўсе ішлі з вялікаю ахвотаю, ведаючы яго дабрату, абавязковасць, пунктуальнасць і вялікія магчымасці. Адна бяда: не было свайго памяшкання. Упрасіліся ў падсуседзі ў цесныя пакойчыкі Акадэміі навук. Работа пайшла з першага дня: адшукваліся аўтары, заказваліся артыкулы, складаўся персаналій, збіраўся іканаграфічны і ілюстрацыйны матэрыял. І ўсё ж вопыту энцыклапедычнай работы ні ў кога не было.

У Грузіі выдавецтва энцыклапедыі існавала ўжо два гады. Узначальваў яго добры друг Броўкі Іраклій Абашыдзе. Паглядзець, як гэта ўсё робіцца, Броўка паляцеў у Тбілісі. Вярнуўшыся, расказваў: выдавецтва мае вялікае памяшканне, значна большыя штаты і аклады, чым у нас. У рэдакцыях знайшоў вельмі мала адказных работнікаў. Сакратаркі і тэхнічныя працаўнікі тлумачылі, што творчыя адзінкі ў асноўным працуюць дома, у бібліятэках, інстытутах Акадэміі навук, у камандзіроўках па гістарычных мясцінах. За два гады нават не было персаналія. За ўключэнне ў энцыклапедыю ішлі бясконцыя баталіі жадаючых трапіць у яе, уключыць родзічаў. Абашыдзе разводзіў рукамі, а вопытам падзяліцца не мог.

Вярнуўшыся, Броўка быў увесь у клопатах і на творчым уздыме. У саюзе амаль не з'яўляўся. Аднойчы мы сустрэліся на пляцы Волі. "Ты не спяшаешся? Ну, то і добра. Хадзем, я табе пакажу адзін будынак". Спусціліся на Інтэрнацыянальную вуліцу. На тым месцы, дзе некалі тырчалі руіны манастыра, стаяў прыгожы ружаваты будынак. "Бачыш?" — "Бачу, а што тут такое?" — пытаюся. "Пракуратура і Міністэрства юстыцыі". — "Навошта яны мне? Я іх абыходжу за квартал". — "Праз год якраз такі будынак будзе мець энцыклапедыя. Не верыш? От пабачыш. Я ўзяў гатовы праект, і ўжо ідзе работа". Я яго правёў дадому, развіталіся і рэдка бачыліся, а калі і сустракаліся, ён заўсёды некуды спяшаўся.

Год, як звычайна, прамільгнуў у мітусні. Неяк каля паўдня — тэлефонны званок: "Здароў. Чым заняты?" — знаёмым Броўка не прадстаўляўся, ведаў, што яго пазнаюць па голасе. "Калі вольны, прыходзь на наваселле. Куды, пытаешся? Акадэмічная, 15-а. Квартал паміж акадэміяй і клінікай. Прыходзь. Чакаю". Я адразу паджгаў. Дом сапраўды — копія таго "пракурорскага". Праўда, яшчэ не закончаны ганак, ходнік ад вуліцы не заасфальтаваны, а будынак аж свіціцца.

Кабінет галоўнага рэдактара, а фактычна дырэктара энцыклапедычнага выдавецтва, на першым паверсе. Стол у канцы, прыстаўныя для наведвальнікаў крэслы ўздоўж сцяны. Пятрусь Усцінавіч у пакоі адзін. Я павіншаваў з уходзінамі і падзівіўся, як удалося за год узвесці такі будынак. "Выходзіць, гатовы праект нічога не каштаваў, а будоўлю кантраляваў Пётр Міронавіч і міністр, мой зямлячок Архіпец, ну і я не сядзеў склаўшы рукі. Трохі абсталяваліся. Хадзем, разам паглядзім". Мы абышлі ўсе паверхі аж да ратапрынтнай у цокальным паверсе. Яшчэ пахла вапнаю і фарбаю, а за сталамі шчыравалі энцыклапедысты.

У кабінеце я выказаў захапленне хуткасцю і якасцю збудавання і між іншым сказаў пра недаробкі на ганку і адсутнасць асфальту. "Добра, што напомніў. Зараз". Ён зняў трубку "вяртушкі". "Дзень добры, Мікалай Цімафеевіч. Броўка дзякуе за выдатны будынак. Не сёння-заўтра абяцаў нас наведаць Пятро Міронавіч, дык каб ні вам, ні нам не было сорамна, трэба як найхутчэй давесці да ладу ганак і заасфальтаваць кавалачак тратуара. От і добра. Будзем удзячны. Жадаю вам..." Зірнуў на мяне і ўсміхнуўся: "Я ж не схлусіў. Пятро Міронавіч абяцаў быць абавязкова. Чым хутчэй зробяць, тым лепш". Мы яшчэ з паўгадзіны прагаварылі пра самае будзённае. Пятрусь Усцінавіч праводзіў мяне на вуліцу. Зірнуў і засмяяўся: тынкоўшчыкі даводзілі да ладу ганак, жанчыны ў аранжавых робах разграбалі асфальт, шлёпаючы, яго раўнаваў цяжкі каток. Пятрусь задаволена ўсміхнуўся: "Казаў жа табе, што праз год будзем у сваёй хаце. Так яно і ёсць". Пацікавіўся Пятрусь, што новага ў Саюзе пісьменнікаў, як кіруюць новыя сакратары. Я што ведаў, расказаў. "А чаму ў іх нічога не ладзіцца? Разумееш ці не? Не ведаюць, з чаго пачынаць. Чуць што, адразу ідуць да сакратара ЦК. А той сам адразу нічога не вырашыць. Звычайна кажа: "Подумаем, посоветуемся. Позвоните через недельку". Збярэ работнікаў, кожны ж хоча паказаць, які ён разумны: "Несвоевременно. Рано. Подумать следует". Так і спусцяць пад адхон. Як я рабіў? Калі што трэба вырашыць, ішоў у ЦК і шпацыраваў па калідоры, нібыта некага чакаючы. Выходзіць які-небудзь інструктар пакурыць. Цікавіцца, якая ў мяне патрэба. Расказваю. Ківае, згаджаецца. Пытаюся, ці падтрымае, згаджаецца. Так я ў калідоры ўвесь аддзел падрыхтую. Счакаўшы, іду да сакратара. Яго работнічкі паказалі сваю дасведчанасць, падтрымалі, і ўсё вырашана. А яны дзейнічаюць адразу з галавы і ўсё правальваюць". Яшчэ пастаялі, паглядзелі на работу. Пятрусь скаламбурыў: "Маладзец Архіпец. Ні яму, ні мне не будзе сорамна. А Пятро Міронавіч любіць парадак".

Сяргей ГРАХОЎСКІ.

Працяг.
Пачатак у №№ 1-3.

*ПРЭМ'ЕРА*

# ДОБРАЕ ДАЛЁКА ЧУВАЦЬ



У Слонімскім беларускім драматычным тэатры зноў прэм'ера. На гэты раз — прэм'ера для дзяцей па п'есе Аляксея Якімовіча "Добры Змей". Аўтар п'есы жыве ў Слоніме, шмат піша не толькі празаічных твораў для школьнікаў малодшага і старэйшага ўзростаў, але і драматычныя творы для іх. Дарэчы, яго дэбют як драматурга таксама адбыўся на слонімскай сцэне. Гэта было чатыры гады назад, калі рэжысёр Сяргей Бачкоў упершыню ажыццявіў пастаноўку спектакля па п'есе А. Якімовіча "Чарадзейныя суніцы". Пасля ўбачылі сцэнічнае жыццё яшчэ дзве п'есы нашага земляка. Гэта "Хітрыкі Бабы Ягі" (1994 год, рэжысёр Мікалай Варвашэвіч) і "Апошні дыназаўрык" (1995 год, рэжысёр Таццяна Дубік).

Новы спектакль "Добры Змей" паставіў малады рэжысёр тэатра Васіль Сявец. Гэта яго другая самастойная праца. А першай пастаноўкай у мінулым годзе быў спектакль "Хачу быць чараўніцай". Спектакль гэты да сённяшняга дня яшчэ глядзяць дзеткі ў розных рэгіёнах Беларусі, дзе бывае на гастролях тэатр. Калі я запытаўся ў Васіля Сяўца, над якім спектаклем было цяжэй працаваць, над першым ці другім, рэжысёр адназначна адказаў: "Над другім, бо першая п'еса Н. Нячаевай "Хачу быць чараўніцай" даволі лёгкая і з боку рэжысёрскай пастаноўкі, і па зместу. П'еса Аляксея Якімовіча "Добры Змей" больш складаная, яна адрозніваецца ад вышэйназванай і моваю, і зместам, і канфліктнымі сітуацыямі. Шмат прыйшлося дадумваць самому, як рэжысёру. Сёе-тое вырашалі сумесна. Я, напрыклад, хацеў зрабіць двухгаловага Добрага Змея. Але параіўшыся з аўтарам п'есы і з мастацкім кіраўніком нашага тэатра Мікалаем Варвашэвічам, які, дарэчы, шмат дапамагаў мне, як рэжысёру, прыйшлі да высновы (і гэта добра), што ў беларускім фальклоры, у беларускіх казках і паданнях няма двухгаловых і трохгаловых змеяў, ёсць проста вужакі, вужы, змеі аднагаловыя. Адсюль і трэба зыходзіць. Што я і зрабіў". Сапраўды, так і атрымалася. У спектаклі застаўся аднагаловы Добры Змей, які жыве ў дрэве і дапамагае Лявонку (артыст Уладзімір Навумік) і Насцечцы (артысткі Іна Ёрш і Вікторыя Міхальчык) вырвацца з бяды. Добры Змей час ад часу выглядвае з-за дрэва і спакойным, выразным голасам гутарыць са сваімі знаёмымі.

Упершыню ў гэтым спектаклі для дзяцей на сцэне Слонімскага драмтэатра ўведзены элемент лялечнага тэатра — лялька, якая іграе побач з акцёрамі. І гэтаю пальчатачнаю лялькаю з'яўляецца Добры Змей, ролю якога выконваюць і агучваюць артысты Сяргей Пракопіч і Аляксандр Шалахонаў.

Адмоўных герояў заўсёды лягчэй іграць, чым станоўчых. За сваю тэатральную кар'еру шмат іх сыгралі ў тэатры артысткі Ніна Жукоўская, Людміла Грынчык, Таццяна Натарава і Ірына Яцук, якія выконваюць у новым спектаклі ролі мамы Халеры і Таклюсі. Па-свойму арыгінальнымі і смешнымі атрымаліся іх гераіні, часам нават і шкада мамы Халеры і Таклюсі, якая хоча выйсці замуж за Лявона. Шмат подласці яны робяць, дзеля дасягнення сваёй мэты. Але перамагае дабро і чуласць Добрага Змея, бо праўду кажуць у народзе: добрае далёка чуваць. І гэта так.

Глядзеў прэм'еру і аўтар п'есы Аляксей Якімовіч. Ён быў задаволены, шчыра дзякаваў калектыву за спектакль. Хочацца спадзявацца, што супрацоўніцтва драматурга з тэатрам будзе працягвацца і надалей. А юныя гледачы нашай рэспублікі няхай атрымліваюць ад спектакляў Слонімскага беларускага драматычнага тэатра толькі настрой і адпачынак.

Сяргей ЧЫГРЫН.

**НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля "Добры Змей".**



ВЫСТАВЫ



## СЛУЖЫЦЬ МАСТАЦТВУ БЕСКАРЫСЛІВА

**У Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрылася юбілейная выстава старэйшага беларускага жывапісца Генрыха Бржазоўскага, якая прысвечана яго 85-годдзю.**

У экспазіцыі прадстаўлены работы розных жанраў — партрэт, пейзаж, нацюрморты, станковы жывапіс. Частка карцін прысвечана Вялікай Айчыннай вайне. Генрых Францавіч партызаніў у дукорскіх лясах. У тыя гады мастаком зроблена мноства графічных партрэтаў партызан, замалёвак для будучых карцін. Пасля вайны ім напісаны дзесяткі палотнаў. Больш за 50 карцін Генрых Бржазоўскі падарыў Пухавіцкаму краязнаўчаму музею.

Генрых Францавіч дружыў з многімі дзеячамі культуры Беларусі. У прыватнасці, з народным паэтам Беларусі Янкам Купалам. Бржазоўскім напісаны дзесяткі яго партрэтаў. Усе яны знаходзяцца цяпер у музеі Янкі Купалы.

Пейзажы і пяшчотныя нацюрморты Генрыха Бржазоўскага — гэта адлюстраваная ў яркіх, сонечных фарбах прыгажосць любімай аўтарам зямлі Беларусі, яе лугоў, палёў, лясоў і рэк.



НА ЗДЫМКАХ: Генрых БРЖАЗОЎСКІ з Людмілай БРЖАЗОЎСКАЙ, вядомай беларускай прыма-балерынай, народнай артысткай Рэспублікі Беларусь; работы мастака "Янка Купала і Якуб Колас", "На родных палетках".

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.



# ЛІЧЫЎ СЯБЕ БЕЛАРУСАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У палітыку Андрэй не лез. Займаўся больш будоўлямі, гідрабудаўніцтвам, трымаўся спартыўных таварыстваў. Ёсць у Празе таварыства "Сокал" і стадыён з такой жа назваю. То гэты стадыён ён і будаваў, гэтага таварыства трымаўся. Сям'ю не заводзіў. Жыў адзін. "Сокал" — гэта славянскае спартыўнае таварыства супраць анямечвання. У вайну немцы праводзілі ў Чэхаславакіі перапіс насельніцтва. Андрэй запісаўся беларусам. Гэта дакладна. Трымаўся ў Празе ён і беларускага зямляцтва. Але тут быў пераборлівы. Не з кожным сыходзіўся. Сябраваў з Забэйдам-Суміцкім, не адзін раз быў яго госцем, слухаў яго песні, якія кіравалі ўспаміны да Беларусі, вялі яго думкі ў той кут, дзе нарадзіўся, гадаваўся, дзе ўсё было такое суладнае з прыродай.

Надарылася, прыязджаў на Беларусь, праўда, толькі заходнюю. На ўсход яму тады яшчэ дарогі не было. Тут ён сустракаўся з сваімі блізкімі, роднымі. Незабыўныя заўсёды былі стрэчы з дзядзькам Уласавым. Абодва з якойсьці юнацкай дабрынёй згадвалі, як Уласаў на пачатку стагоддзя распачынаў беларушчыну, як збіраў на яе сілу. Далучаў ён да гэтага і сваіх пляменнікаў. Андрэя таксама. І яго рупнасць не прапала марна. Можа, калі б гісторыя крыху інакш павярнулася, Андрэй стаў бы аднадумцам рэдактара "Нашай нівы". Падчас аднае, яшчэ даваеннай пабыўкі, Андрэй сфатаграфаваўся з дзядзькам. Здымак той ацалеў. Вера Андрэеўна мяркуе, што сфатаграфаваліся яны ў Варшаве, калі абодва былі шаферамі на яе вяселлі з Браніславам Тарашкевічам. Здымак настраёвы, аптымістычны. Пляменнік з дзядзькам пакуль не вельмі наракаюць на долю, на лёс. Яшчэ ў абодвух ёсць надзея, што жыццё наладзіцца, Беларусь увойдзе ў свае берагі, і абодва яны яшчэ папрацуюць спаўна на сваю Бацькаўшчыну. Але гісторыя рабіла ўсё новыя і новыя віражы, усё далей адсоўваючы іхнія надзеі.

Пасля другой сусветнай вайны Андрэй колькі разоў наведваў Мінск — горад свайго маленства. Але Мінск быў ужо непазнавальны. Толькі некаторыя будынкі нагадвалі яму колішні горад. Спачатку ён яму не спадабаўся: глядзеў ён на яго крытычна: мала гармоніі, змяшэнне стыляў. Ён жа быў будаўнік, архітэктар, жыў у архітэктурна гарманічным горадзе — Празе. Але наступным разам Мінск не падаўся яму ўжо такім чужым, як першы раз.

Вера Андрэеўна таксама не адзін раз ездзіла да Андрэя ў Прагу. Як прыязджала, заўсёды спатыкалася з Забэйдам-Суміцкім. Андрэй вельмі любіў музыку і спорт. Будаваў гідрастанцыі, каналы і любіў спевы, оперу. Пры стрэчах Забэйда ім спяваў. Успаміны ліліся ракой... У юнацтве Андрэй добра іграў на віяланчэлі. Ён жа скончыў мінскую музычную школу. Пра яго віяланчэль казалі: "Андрэй з сваёй жонкай..."

Ездзіла Вера Андрэеўна і на пахаванне брата. Як ён памёр, сабраліся сябры і з "Сокала", і з працы. Сярод іх было шмат Андрэевых прыяцеляў. Ім Вера Андрэеўна аддала ўсе Андрэевы паперы. Пахаваны Андрэй у Празе, на Альшанскіх могілках, поблізу беларускіх дзеячаў Крэчэўскага і Захаркі. Між іншым, Захаркаў дзед колісь служыў у Сніткаў.

Пішу я гэтую сціплую, вядома, далёка не поўную, схематычную нататку пра Андрэя Снітку-малодшага і думаю, колькі Беларусі магла даць адна толькі сям'я Сніткаў, калі б наша грамадства развівалася сваім натуральным шляхам! Але ў гэтае жыццё ўвесь час урывалася магутная разбуральная сіла, і лепшыя яе сыны ці знішчаліся, ці змушаны былі эмігрыраваць за мяжу. А мы заставаліся і застаемся з далёка не ідэальнай элітай, а пасля яшчэ пытаемся, чаму ж так пагана і бесталкова жывем, чаму наша нацыя ніяк не вырвецца з свае местачковасці, з нейкага зачараванага кола. А таго не думаем, што раскідалі і раскідваем свой лепшы генафонд па свеце.

...Беларус Барыс Кіт здабыў для свету ракетнае паліва, здабыў у Злучаных Штатах. Андрэй Снітка-малодшы разам з сваімі чэшскімі калегамі пабудаваў у Празе славуты стадыён "Сокал", "Велькі стадыё Страгаў". Ну што ж — і пра гэта павінен ведаць свет. Беларусы — народ стваральны, мірны. Лепшыя яго сыны праз усё жыццё хацелі найперш служыць сваёй Бацькаўшчыне. Але ім не заўсёды гэта ўдавалася. Тады даводзіцца свой прыродны талент аддаваць іншым народам. Заганная гэтая практыка. Але што зробіш. Не гінуць жа талентам. Тут важна, што таленты не парываюць сае повязі з Бацькаўшчынай. Жывучы за межамі Беларусі, яны пачуваюцца яе часцінкай. Такім сябе пачуваў і выгнаны лёсам з Беларусі Андрэй Снітка-малодшы. Ён даражыў сямейнымі памяткамі. З ім, згадвае яго пляменніца Ірына, быў у Празе і вельмі стары вышываны ручнік з Беларусі яшчэ з бабчынымі вензелямі. Ацалела і сакольская фірмовая шапачка. Усе гэтыя памяткі перахоўваюцца ў сястры Веры Ніжанкоўскай-Тарашкевіч і яго пляменніцы Ірыны ў Радашковічах.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



Сям'я СНІТКАЎ.

## НАСТАЛЬГІЯ І НАДЗЕЯ

Напрыканцы снежня ў Карэліцкім сельскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 125 у рамках Тыдня гісторыі супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі і краязнаўчага музея "Зямля і людзі" арганізавалі гадзіну інфармацыі пад назвай "Настальгія і надзея", на якой ішла гаворка пра славутых землякоў Карэліччыны. Бо карэліцкая зямля — радзіма шэрагу сусветна вядомых людзей — дзеячаў навукі і культуры, якія праславіліся за яе межамі, пакінуўшы сваю Бацькаўшчыну ў розныя гады і пры розных абставінах. Сярод іх акадэмік Міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі Барыс Кіт, які жыў на радзіме бацькоў у вёсцы Агароднікі; вучоны з сусветна вядомым імем, першы рэктар універсітэта ў Сант'яга, нацыянальны герой Чылі Ігнат Дамейка (родам з Мядзведкі); былы саліст хору данскіх казакоў у Канадзе Пётр Конюх (ураджэнец вёскі Турэц); гісторык, публіцыст, вучоны Янка Запруднік, які нарадзіўся ў гарадскім пасёлку Мір; пісьменніца Іна Рытар, якая працавала настаўніцай у Ярэміцкай школе. Людзі гэтыя сталі знакамітымі за мяжой, а для большасці беларусаў на Бацькаўшчыне іх імёны і прозвішчы былі невядомымі.

У памяшканні бібліятэкі вучылішча, дзе адбывалася мерапрыемства, з густам былі аформлены фотавітрына і кніжная выстава "Галасы беларускага замежжа". Навуковы супрацоўнік раённага краязнаўчага музея Святлана Кошур прачытала лекцыю пра жыццё і творчасць Б. Кіта, І. Дамейкі, П. Конюха. Супрацоўнікі бібліятэкі правялі гутарку аб жыцці і творчасці Я. Запрудніка і І. Рытар. На заканчэнне мерапрыемства супрацоўнікам цэнтральнай раённай бібліятэкі быў зроблены бібліяграфічны агляд літаратуры па тэме "Туга па Радзіме".

**І. ПЯТРОЎ.**

СТАРАЖЫТНАЯ АСТРАЛОГІЯ І ГРАМАДСТВА

# УСЁ, ШТО НІ РОБІЦЦА, ДА ЛЕПШАГА

У астралагічны цэнтр "Калагія" мяне прывяла цікаўнасць — пачуццё такое ж старажытнае, як і сама астралогія.

Мая гутарка з супрацоўнікамі цэнтра праходзіла пад крыкі, што даносіліся з суседняга пакоя: "Ах, каб я толькі ведаў"... Пасля чарговага ўсплёску эмоцый я не вытрымала і пацікавілася, што там адбываецца. Аказалася, "нагрэты" партнёрам на два мільёны долараў бізнесмен пастфактум вырашыў пацікавіцца ў астролага лёсам свайго прадпрыемства. Няўдалая здзелка была заключана менавіта ў той паўтаратыднёвы парыяд, калі трэба было любымі спосабамі ўстрымлівацца ад рэзкіх рухаў. Увогуле, калі б мужык перахрысціўся да таго, як грымнуў гром, страт магло б і не быць...

Да астралогіі ставяцца па-рознаму. Адны бачаць у ёй ілжэнавуку, другія — модную забаву, трэція, як, напрыклад, вядомы астраном, доктар фізіка-матэматычных навук Н. Ідэльсон лічаць, што ў астралогіі закладзена першааснова пазнання гарманічных законаў сусвету. Мы ж паспрабуем падысці да яе вельмі утылітарна і паглядзець, чым далёкія зоркі могуць аказацца карыснымі простаму чалавеку, занятаму сур'ёзнай справай.

На Захадзе паслугамі астролагаў карыстаюцца пастаянна на ўсіх узроўнях. Так, вядома, што месца і час сустрэчы ў Рэйк'явіку Рональд Рэйган назначаў па парадзе свайго астролага. У выніку ён зняў усе палітычныя вяршкі, у той час як яго партнёр толькі падпісваў дакументы... Небяспечныя перыяды канкрэтнага бізнесу, найбольш спрыяльны для тых ці іншых пачынанняў час, сумяшчальнасць з дзелавымі партнёрамі, падбор кіраўніка фірмы ці радавых супрацоўнікаў для вопытнага астролага відавочныя, як гараскоп дзіцяці.

На маё пытанне, якія знакі ў гэтым годзе будуць адыгрываць асноўную ролю, мне ў "Калагіі" адказалі, што 1997 год асабліва спрыяльны для Вадалеяў, так што не ўпусціце свой шанс. Дзевы будуць загружаны руціннай працай, але асабліва наракаць на гэта не стануць, таму што праца будзе канструктыўнай і абавязкова прынясе адчувальны плён. Стральцам у бліжэйшы і аддалены час, хочуць яны гэтага ці не, давядзецца вырашаць праблемы светапогляду, хацелася б, каб толькі ўласнага, аднак, мяркуючы па ўсім, дастанецца і ўсім нам. Казярогам прадракаецца ў 1997 годзе расстанне з рэшткамі ілюзій, што ўяўляецца складаным, бо як пазбавіцца таго, чаго ўжо даўно не маеш?

А ўвогуле, у гэтым годзе грамадства злёгку супакоіцца, знізіцца процістаянне партый, плыняў і палітычных груповак. Асаблівых палітычных усплёскаў не чакаецца, аднак час ад часу будуць узнікаць лакальныя скандалы і выкрыцці, на палітычнай сцэне замільгаюць шматлікія чамаданы з кампраматам, закулісная валтузня з подкупам службовых асоб, шантаж. Пры аналізе і ацэнцы таго, што адбываецца, трэба ўлічваць, што далёка не ўсе прычыны падзей будуць ляжаць на паверхні, многае будзе схавана, зрэшты, гэтая тэндэнцыя ўласцівая не толькі надышоўшаму году. У той жа час могуць з'явіцца актыўныя, канструктыўна настроеныя дзеячы, якія пасадзейнічаюць пераарыентацыі грамадства, хочацца верыць, што ў канструктыўны бок. Скончыцца год павышэннем асабістай актыўнасці грамадзян. Што тычыцца праблем улады, то зноў "усплывуць" яны толькі ў канцы 1998 года, і будзе гэта закранаць канкрэтнага лідэра, прычым, пытанне паўстане вельмі цвёрда і фатальна.

У бягучым годзе ўсе мы будзем пакутаваць ад бюракратаў. З-за гэтага ўзнікнуць сітуацыі, калі прынятае рашэнне немагчыма "праштурхнуць", яно недзе "тоне", і хаця такія праблемы ўзнікаюць пастаянна, у бліжэйшай будучыні гэта адчуецца асабліва востра. А ўвогуле ж, тыя, хто будуе сваю дзейнасць згодна з астралагічным законам і існуючым заканадаўствам, нарэшце набудуць устойлівасць і стабільнасць. Так і хочацца сказаць — усё, што ні робіцца, да лепшага...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

СПОРТ

**У дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе пры Ваўкавыскім саўгасетэхнікуме яго навучэнцы, а таксама ўсе жадаючыя школьнікі горада вучацца ў вопытных майстроў аднаму з прыгажэйшых і дынамічных відаў коннага спорту — канкуру (пераадоленне перашкод).**

**НА ЗДЫМКУ: васьмікласніца сярэдняй школы № 5 горада Ваўкавыска Жэня АНДРАЕЦ знайшла ўзаемаразуменне са сваім скакуном па мянушцы Імбір.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# ПЕРШ ЧЫМ ПАКЛАСЦІ Ў КАЛЕКЦЫЮ

За апошні час калекцыі беларускіх філатэлістаў і іх замежных калег, якія цікавяцца беларускай тэматыкай у філатэліі, папоўніліся новымі цікавымі выпускамі пошты рэспублікі. Новыя паштовыя карткі і канверты прысвечаны вядомым беларускім пісьменнікам, мастацтвазнаўцам, вучоным. І ў той жа час імёны гэтыя не былі шырока вядомыя. Многія і многія філатэлісты адкрылі іх для сябе дзякуючы выпускам пошты.

Вось новы канверт з арыгінальнай маркай. У практыцы пошты былога СССР такія канверты выдаваліся штогод па некалькі відаў. Марка і малюнак такога канверта звязаны тэматычна.

Новы канверт беларускай пошты з арыгінальнай маркай прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага вучонага-аграноma М. Рытава, аднаго з заснавальнікаў навуковага агародніцтва і пладаводства ў Беларусі. У 1878 годзе М. Рытаў скончыў Маскоўскі універсітэт. У 1879 годзе прыехаў на выкладчыцкую работу ў Горы-Горацкую земляробчую школу. З таго часу і да самай смерці ў 1920 годзе ўся навуковая і грамадская дзейнасць М. Рытава была звязана з гэтай навуковай установай. На паштовым знаку канверта — партрэт вучонага на фоне доследнага поля агародніны. А малюнак канверта — фатаграфія галоўнага корпуса Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці. Гэта адна з найстарэйшых навуковых устаноў рэспублікі.

Горы-Горацкі земляробчы інстытут — першая ў Расіі вышэйшая аграрная навучальная ўстанова. Інстытут існаваў у 1840—1864 і 1919—1925 гадах. Да 1848 года называўся Горы-Горацкай земляробчай школай. За ўдзел студэнтаў гэтага інстытута ў паўстанні 1863—1864 гадоў навучальная ўстанова была закрыта і пераведзена ў Пецярбург (1864 год). У Горках засталася земляробчая школа і землямерна-таксатарскія класы, на базе якіх у 1919 годзе адноўлены Горы-Горацкі земляробчы інстытут. У 1925 годзе была заснавана Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, пазней аб'яднаная з земляробчым інстытутам і Беларускім інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі.

Вялікай папулярнасцю ў калекцыянераў карыстаюцца паштовыя карткі з арыгінальнай маркай. Калі канверт, прысвечаны М. Рытаву, — першы канверт з арыгінальнай маркай у практыцы беларускай пошты, то карткі з такімі маркамі пошта рэспублікі ўжо выпускала. Новая аднабаковая паштовая картка прысвечана 125-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага этнографа, фалькларыста і археолага І. Сербава. Пасля заканчэння Маскоўскага археалагічнага інстытута Сербаў працаваў настаўнікам у Мінску, Гомелі, у некаторых сельскіх школах Беларусі. Займаўся зборам народнай творчасці, вывучаў быт і матэрыяльную культуру беларусаў, арганізаваў серыю экспедыцый на поўдзень Беларусі. Вынікам гэтых экспедыцый была публікацыя цэлага шэрагу артыкулаў і кніг, сярод іх "Паездкі па Палессю 1911 і 1912 гадоў". У 1922 годзе І. Сербаў быў абраны правадзейным членам Інбелкульта. Працаваў загадчыкам кафедры этнаграфіі ў Белдзяржуніверсітэце (1922 год), навуковым супрацоўнікам Акадэміі навук рэспублікі (1929 год). У 1925 годзе правёў археалагічныя раскопкі пад Мінскам і ў іншых мясцінах рэспублікі.

У 1951 годзе на падставе сабраных Сербавым багатых калекцый беларускага нацыянальнага адзення, узораў народнага мастацтва быў выдадзены цудоўны альбом беларускага народнага мастацтва. Захавалася каля 450 фатаграфій Сербава, якія адлюстроўваюць жыццё і быт беларусаў. На марцы паштовай карткі — партрэт вучонага на фоне ўзораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — беларускіх тканых посцілак. Цікавы і малюнак на паштовай картцы: тут паказаны тыя ж посцілкі, ручнікі, вышыўкі, дываны, мастацкія тканіны, разьба па дрэву, ганчарныя вырабы — прадметы быту беларускага народа, якімі цікавіўся Сербаў. На паштоўцы дадзены юбілейны тэкст: "125 гадоў з дня нараджэння Івана Сербава".

Другі канверт з арыгінальнай маркай пошта




выдала да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага мастака-графіка А. Астаповіча (1896—1941). Мастак вучыўся ў 1915—1916 гадах у Петраградзе ў Рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў. Большасць работ А. Астаповіча — гэта пейзажы. На марцы канверта — партрэт А. Астаповіча. А на малюнку канверта — адлюстраванне адной з яго карцін — "Сакавік" (1923 г.) са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Аўтар канверта — мастак К. Шапашнікава.

Няшмат канвертаў выпусціла савецкая пошта, што расказваюць аб пісьменніках Беларусі. А таму з вялікай цікавасцю сустрэлі філатэлісты новы выпуск беларускай пошты. Імя Міхася Чарота, ураджэнца Рудзеншчыны, пісьменніка і грамадскага дзеяча, стала шырока вядома на Беларусі ў апошні час. Выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, шматгадовы рэдактар адной са старэйшых беларускіх газет "Савецкая Беларусь", ініцыятар і кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Маладняк"... Пра пісьменніка Міхася Чарота можна пісаць многа. І гэтым "многа" ўсяго пра яго не раскажаш. Але такое паведамленне — навіна. Пошта рэспублікі выпусціла канверт з партрэтам пісьменніка. На малюнку канверта — партрэт М. Чарота, раскрытая кніга, пяро і палявыя рамонкі. Пад малюнкам надпіс "1896. Міхась Чарот. 1938. Да 100-годдзя паэта".

Кожную марку, "народжаную" беларускай поштай, філатэлісты сустракаюць з цікавасцю. Бо не пра ўсіх людзей, якім прысвечаны паштовыя маркі нашай рэспублікі, філатэлісты нешта ведаюць. Перш чым пакласці новую марку ў калекцыю, амаль кожны калекцыянер стараецца даведацца — хто, што, чаму. Так здарылася з маркай, прысвечанай 100-годдзю М. Шчакаціхіна. Са з'яўленнем гэтага паштовага знака многія адкрылі для сябе невядомага беларускага вучонага-мастацтвазнаўцу і нумізмата М. Шчакаціхіна (1896—1940).

У тэматычным плане выдання марак і мастацкіх канвертаў на 1997 год — некалькі выпускаў, прысвечаных выдатным людзям Беларусі.

**Леў КОЛАСАЎ.**







Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 71.
Падпісана да друку 20.1.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.